*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
30
ЖНІЎНЯ
1991 г.
№ 35 (3601)

ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.

КОШТ—15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)

## ЗАНІМАЙ, БЕЛАРУСЬ МАЛАДАЯ МАЯ, СВОЙ ПАЧЭСНЫ ПАСАД МІЖ НАРОДАМІ!



*Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі*

# АБ НАДАННІ СТАТУСА КАНСТЫТУЦЫЙНАГА ЗАКОНА

## Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі

**Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі пастанаўляе:**

1. Надаць статус канстытуцыйнага закона Беларускай ССР Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

2. У выпадках, калі артыкулы дзеючай Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Беларускай ССР уваходзяць у пярэчанне з палажэннямі Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, кіравацца Дэкларацыяй як канстытуцыйным законам Беларускай ССР.

3. Даручыць Камісіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР па заканадаўству падрыхтаваць да наступнай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР папраўкі да дзеючай Канстытуцыі Беларускай ССР.

4. Даручыць Канстытуцыйнай камісіі прывесці тэкст праекта рыхтуемай Канстытуцыі рэспублікі ў адпаведнасць з палажэннямі Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

**Першы намеснік Старшыні**
**Вярхоўнага Савета Беларускай ССР**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

25 жніўня 1991 г.
гор. Мінск.



**ВІНШУЕМ!**

**Старэйшына беларускай дакументалістыкі Ігнат Дуброўскі сустракае сваё 85-годдзе. Доўгіх яшчэ год Вам, Ігнат Цімафеевіч! А пра тое, што юбіляр па-ранейшаму застаецца ў публіцыстычным страі, найлепш сведчыць гэты нарыс.**

# МАРГАНІСЦКАЯ ГРЭЧКА

**Ігнат ДУБРОЎСКІ**

АДНОЙЧЫ ЛЕТАМ 1947 года я выйшаў з галоўнага корпуса Акадэміі навук БССР у канцы рабочага дня і ўбачыў ля пад'езда Якуба Коласа, Міхася Лынькова і Пятро Глебку. Яны стаялі купкай, але неяк адасоблена, моўчкі. Колас назіраў за мітуснёй вераб'ёў, якія тут жа шукалі на зямлі спажыву. Лынькоў прыжмурана ўглядаўся ў верхнюю частку калон будынка акадэміі. Глебка гартаў маленькага фармату кніжачку вершаў. Я пакланіўся ім і хацеў прайсці міма, але Глебка затрымаў мяне.

— Хадзем з намі на экскурсію, пабачыць доследы Жэбрака з грэчкаю, што за Батанічным садам. Чакаем Антона Раманавіча.

— Нялоўка неяк. Мяне Антон Раманавіч не запрашаў,—адказаў я.

— І нас не запрашаў. Гэта дзядзька Якуб арганізаваў паход на жэбракаўскую грэчку,—растлумачыў Глебка.

У гэту хвіліну з пад'езда выйшаў Антон Раманавіч у белым халаце з тоўстым сшыткам у руках. Убачыўшы мяне, таксама запрасіў ісці разам на агляд яго доследаў. І мы накіраваліся праз Батанічны сад на доследнае поле.

З Антонам Раманавічам Жэбракам я пазнаёміўся ў 1935 годзе, калі быў аспірантам Усесаюзнага інстытута эканомікі сельскай гаспадаркі. Пры першай сустрэчы ён, па маёй рускай мове, пазнаў ва мне беларуса. Аказалася, што і ён беларус, з Гродзеншчыны, якая ў той час знаходзілася пад польскай акупацыяй. З сумам сказаў, што гадоў пятнаццаць як не мае ніякіх звестак пра сваю родную вёску Збляны Зэльвенскай воласці, пра сваіх родных і блізкіх. З гутаркі высветлілася, што ён любіць мастацкую літаратуру, асабліва беларускую. Пазней я перадаваў яму кнігі некаторых беларускіх пісьменнікаў.

Вясной 1947 года, калі Антон Раманавіч стаў прэзідэнтам Акадэміі навук БССР, ён зрабіў некалькі паездак па калгасах і саўгасах рэспублікі, каб пазнаёміцца з пасляваенным станам сельскай гаспадаркі і больш упэўнена вызначыць накірунак навуковых даследаванняў у гэтай галіне. У тыя паездкі быў запрошаны і я—у той час загадчык сектара аграрных праблем Інстытута эканомікі.

Доследы Жэбрака з пшаніцай, асабліва з грэчкай, мяне, як эканаміста-аграрніка, вельмі цікавілі. Ды не толькі мяне, цікавілі яны многіх спецыялістаў сельскай гаспадаркі, навукоўцаў і нават шырокія колы інтэлігенцыі.

Цікавасць да грэчкі зразумелая. Некалі грэчка была асноўнай крупяной культурай на Беларусі. Славіліся тут не толькі грачаная каша, але і грачаныя аладкі. Але ў грэчкі ёсць адна ўласцівасць адмоўнага характару—нізкія ўраджаі. Як ты яе ні даглядай, ні завіхайся, больш 3—4 цэнтнераў з гектара не намалоціш...

Гамонячы пра грэчку, мы падышлі да доследных дзялянак. Лынькоў, убачыўшы іх, спыніўся, шырока развёў рукамі, ускінуў бровы і захістаўся ўсім тулавам управа-ўлева. Міхась Ціханавіч, калі здзіўляўся ці абураўся, не ківаў радасна або дакорліва галавой, а хістаўся ўсім тулавам, выразам твару выказваючы пачуццё. Тут было знарочыстае здзіўленне і расчараванне.

— Бог мой! — пляснуў ён рукамі,— Антон Раманавіч, Антон Раманавіч, гэта і ўсё?—паказаў ён рукой на дзялянкі-градкі.— Можна ўсе вашы доследы шапкай закрыць. А я думаў—у вас поле, як вокам акінуць. А тут—градкі...

Доследныя дзялянкі сапраўды былі маленькія. Усе каліўцы грэчкі можна было пералічыць на пальцах.

— У дзядзькі Якуба куды прывабней,—працягваў Лынькоў і прадэкламаваў страфу з паэмы «Новая зямля» Якуба Коласа:

**За хатай поле пачыналась,**
**Дзе жыта хораша гайдалась,**
**І рос авёс, ячмень і грэчка —**
**Было прытульнае гняздзечка!..**

— Цябе, Міхал,—так іншы раз Колас называў Лынькова,—трэба паслаць у калгасны лікбез, каб там навучылі адрозніваць доследныя пасевы ад гаспадарчых.

— Воля ваша, дзядзька Якуб, вы — віцэ-прэзідэнт акадэміі.

— Дзядзька Якуб, пасылайце Міхася толькі ў такі калгас, дзе ёсць добрая рэчка або возера,—параіў Пятро Глебка. Вядома было, што Міхась Ціханавіч любіў пасядзець на беразе з вудачкай.

— Во, во, нішто парада—шчупака ды ў рэчку,—засмяяўся Колас.

— Міхась Ціханавіч,— звярнуўся Жэбрак да Лынькова,—каб стварыць новы від грэчкі, няма патрэбы засяваць ёю цэлае поле. Напачатку атрымаць хоць бы некалькі зярнят новай якасці. А гэта вельмі і вельмі складаная задача. І з гэтых зярнят выгадаваць, на працягу некалькіх пакаленняў, новы від.

Антон Раманавіч, знаёмячы нас з грэчкай, якую мы, здавалася, добра ведалі з дзяцінства не толькі на смак, пачаў расказваць пра недахопы гэтай каштоўнай культуры. Задача яго доследаў—адкінуць ад грэчкі новага віду калі не ўсе, то самыя істотныя заганы, якія не дазваляюць атрымліваць высокія ўраджаі.

Антон Раманавіч звярнуў нашу ўвагу на мноства суквеццяў, якія белымі тампончыкамі ўпрыгожвалі расліны грэчкі, і дробнае лісце. У лісцях, як вядома, фармуюцца ўсе рэчывы, з якіх будуецца расліна, у тым ліку і зярняты. Слабая аблісцвеннасць грэчкі — адна з прычын нізкіх ураджаяў. Нават каб усе кветачкі суквеццяў апладніліся, большая частка зярнят не вырасла б, дробнае лісце не можа забяспечыць рост зярнят патрэбнымі рэчывамі.

— Цікава, Антон Раманавіч, незлічоную колькасць разоў мы бачылі грэчку, але гэтай несуладнасці не заўважалі. І яна вельмі простая... Значыць, трэба ў грэчкі павялічыць лісце, і мы будзем мець высокі ўраджай!—з запалам выказаў Глебка сваю здагадлівасць.

— Не так проста, Пятро Фёдаравіч, гэта зрабіць. Лепшыя вучоныя-селекцыянеры гадамі біліся над гэтай задачай, але нічога не выйшла. Патрэбен новы від грэчкі,—астудзіў Жэбрак узнёслы настрой Глебкі.

Задачу вывядзення новага біялагічнага віду грэчкі і паставіў перад сабой Антон Раманавіч. У пошуках падыходаў, як вывесці яе новы від, ён прыйшоў да думкі ўжыць той жа метад, якім стварыў новыя віды пшаніцы,— метад штучнай мутацыі. Штучнымі мутацыямі яму ўдалося павялічыць колькасць храмасом у клетках пшаніцы з 14 да 28, а потым да 42, 56 і 70, а ў выніку—значна павысіць ураджай, засухаўстойлівасць, палепшыць якасць зярнят. Пшаніцы з двайным, трайным і большым наборам храмасом прырода не ведала. З'яўленне новых відаў пшаніцы было тварэннем розуму і рук чалавека.

Метадам штучных мутацый Жэбрак і пачаў свае доследы з грэчкай — яшчэ ў 1944 годзе на кафедры генетыкі Ціміразеўскай сельскагаспадарчай акадэміі. Але першым, як паведаміў нам Жэбрак, тэтраплоідную (з падвоенай колькасцю храмасом) грэчку атрымаў У. Сахараў. Ён, Жэбрак, вырашыў вывесці новы від грэчкі на беларускіх гатунках.

Насенне грэчкі, каб выклікаць штучную мутацыю, апрацоўвалася водным растворам калхіцыну. Са 100 парасткаў, падвергнутых яго ўздзеянню, выжыла і паспела 66 штук.

— Першы крок у доследах быў удачны. Азначыўся новы від. Але да яго стварэння было яшчэ далёка,—кажа Антон Раманавіч.

Пры вырошчванні грэчкі з гэтага насення ў 1945 і 1946 гадах у Ціміразеўскай акадэміі высокая пладавітасць захавалася. Асобныя расліны першага (1945 года) пакалення далі па 163—205 зярнят, тады як Церахоўская дае ў сярэднім па 105 зярнят з расліны.

Апрача грэчкі, Жэбрак вёў шырокія доследы са сваімі новымі відамі пшаніцы, з павялічанай колькасцю храмасом. Доследы праводзіліся на эксперыментальнай базе «Бараўляны» і ў некаторых калгасах. Ён таксама пачаў доследы з культурай проса, меркаваў заняцца насеннем кукурузы ў Беларусі...

Якуб Колас абышоў усе градкі, агледзеў кожную расліну. Ён наогул нязменна цікавіўся сельскай гаспадаркай, дасканала ведаў яе. Знаёмы яму былі і доследныя работы з палявымі культурамі, ён і сам вёў доследы на сваёй сядзібе.

— Добрую справу робіце, Антон Раманавіч. І пачатак у вас надзейны. Грэчка будзе! — звярнуўся Колас да Жэбрака пасля агляду дзялянак.

— Антон Раманавіч, скажыце, калі ласка, праз колькі часу нашы гаспадыні паставяць на святы кут за стол, на мурожнае сена, куццю з грачанай кашы?— пацікавіўся Лынькоў.

Жэбрак спаслаўся на вопыт нашых вядомых селекцыянераў, якія трацілі па 10—15, а то і 20 гадоў на вывядзенне новага гатунку злакавых культур. Складаная, карпатлівая работа. Дзесяткам аналізаў падвяргаецца кожная расліна асобна. На працягу гадоў трэба правесці сотні, можа, нават тысячы аналізаў і на гэтай аснове адбіраць патрэбныя экземпляры.

— Антон Раманавіч, а вы не баіцеся, што Лысенка вас апярэдзіць? Ён, як вядома, даў абяцанне выводзіць новыя гатункі палявых культур за два гады,—з іранічнай усмешкай спытаў Глебка.

— Новых гатункаў лысенкаўскіх я, Пятро Фёдаравіч, не баюся, а вось Лысенкі... Ён можа загубіць усё, калі адчуе, што правальваецца сам. Па лысенкаўскай «тэорыі», — падкрэсліў Жэбрак,—новая грэчка можа з'явіцца сама, з якога-небудзь пустазелля.

За тэму перараджэння ўхапіліся Глебка і Лынькоў. Гутарка пайшла аб лысенкаўскіх сцвярджэннях, што пшаніца перараджаецца ў жыта, жыта—у жытняк, авёс—у аўсюг. Жэбрак назваў гэта выдумкай і даводзіў, што такія з'явы ў прыродзе немагчымы.

Гутаркі пра перараджэнне раслін хапіла нам, аж пакуль не дайшлі да акадэміі.

Тым летам часта даводзілася бачыць Якуба Коласа ля дзялянак жэбракаўскай грэчкі. Яго вельмі цікавілі гэтыя доследы, якія ён называў новым стаўленнем чалавека да прыроды.

НЯДОЎГА ПАБЫЎ Антон Раманавіч Жэбрак на пасадзе прэзідэнта Акадэміі навук БССР. Летам 1946 года ў амерыканскім часопісе «Навука» быў надрукаваны яго артыкул аб развіцці біялагічнай навукі ў СССР. Артыкул быў напісаны не па ініцыятыве аўтара, а па заказе Антыфашысцкага камітэта вучоных яшчэ ў 1944 годзе. Змест артыкула ўхваліла кіраўніцтва Саўінфармбюро і рэкамендавала да друку ў амерыканскім часопісе.

У сувязі з тым, што некаторыя амерыканскія вучоныя разглядалі савецкую біялагічную навуку як адзіны працэс пад эгідай Лысенкі, Жэбрак мусіў адзначыць у сваім артыкуле, што ў біялагічнай навуцы Савецкага Саюза склаліся дзве плыні, так званая мічурынская аграбіялогія і класічная генетыка, да якой належыць і сам аўтар. Жэбрак адзначыў, што генетыкі не прызнаюць поглядаў Лысенкі навуковымі.

У тым жа амерыканскім часопіе «Навука», але крыху пазней, быў надрукаваны і артыкул вядомага савецкага генетыка Мікалая Пятровіча Дубініна, блізкага сябра Жэбрака. Пра гэтыя артыкулы Лысенка і лысенкаўцы ўспомнілі, калі ў Савецкім Саюзе разгарнулася шырокая і вельмі гулкая кампанія барацьбы супраць так званага нізкапаклонства перад усім замежным. Самая малейшая пахвала чаго б там ні было замежнага кваліфікавалася як антыпатрыятычны, антысавецкі ўчынак, ледзь не здрада радзіме.

**Лысенкаўцы лоўка скарысталі гэту кампанію ў барацьбе з генетыкамі. У друку, не без падбухторвання Лысенкі, з'явіліся артыкулы супраць двух лідэраў антылысенкаўскага фронту ў біялогіі— Дубініна і Жэбрака. Іх выступленні ў амерыканскім друку назвалі ганебнымі, антыпатрыятычнымі і патрабавалі расправы над «здраднікамі». Мэтай лысенкаўцаў было зганьбаваць гэтых двух буйнейшых вучоных генетыкаў, выключыць іх з навуковай сферы і, такім чынам, калі не разваліць, то істотна аслабіць антылысенкаўскі фронт у біялогіі.**

**Устрывожылася і беларускае рэспубліканскае кіраўніцтва таго часу. Асабліва ўсхадзіўся сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі Іаўчук, баючыся, каб часам за прымірэнцтва да «марганіста» Жэбрака не насыпалі жару за каўнер і яму. Па яго ініцыятыве і пры яго актыўным удзеле быў скліканы 12 лістапада 1947 года агульны сход акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў, якія звольнілі Антона Раманавіча Жэбрака з пасады прэзідэнта Акадэміі навук за антыпатрыятычны ўчынак, несумяшчальны з годнасцю савецкага вучонага.**

**Новым прэзідэнтам акадэміі быў выбраны Мікалай Іванавіч Грашчанкаў, медык-хірург па спецыяльнасці. Ён, як прэзідэнт Акадэміі, рашуча праводзіў хірургічную аперацыю па барацьбе з «жэбракаўшчынай» на Беларусі, па выдаленні ўсяго, што пачынаў Жэбрак.**

**Міністэрства вышэйшай адукацыі СССР запатрабавала суда «гонару» над Жэбракам і Дубініным. Гэта ж міністэрства і правяло суд «гонару» над Жэбракам. Яму было вынесена грамадскае ганьбаванне. Адзіны, хто абараняў на судзе Жэбрака, быў Мікалай Пятровіч Дубінін. Гэты мужны і рашучы чалавек даказваў, што ўчынак Жэбрака патрыятычны па сваёй сутнасці, бо робіць гонар нашай краіне і савецкай навуцы.**

Жэбрак пакінуў Беларусь адразу пасля звальнення з пасады прэзідэнта. Але насенне яго тэтраплоіднай пшаніцы засталося. Набліжалася вясна 1948 года. Трэба было думаць, што рабіць з ім. Першым занепакоіўся дырэктар Інстытута сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, член-карэспандэнт АН БССР Віктар Іванавіч Шэмпель. Вырашыць гэта пытанне самастойна ён не рызыкнуў і звярнуўся да прэзідэнта АН Грашчанкава.

Пачуўшы ад Шэмпеля пра насенне жэбракаўскай пшаніцы, Мікалай Іванавіч задумаўся, круглы, поўны твар яго спахмурнеў.

— Хм... Яшчэ не было мне клопату... Насенне... Вы, Віктар Іванавіч, аграном, вам і вырашаць. Разам, вось, з Іванам Сцяпанавічам,— кіўнуў ён на свайго віцэ-прэзідэнта Лупіновіча.—Я—медык, некампетэнтны ў насенных справах, —хітра аргументаваў ён.

— Вы — не аграном, гэта так. Але ж вы, Мікалай Іванавіч, прэзідэнт акадэміі. Калі, крый Бог, нас абвінавацяць у развядзенні morganaўскай пшаніцы, то першыя стрэлы палятуць у ваш адрас,—выставіў важкі контраргумент Шэмпель.

— Хм... — зноў гаркава хмыкнуў Грашчанкаў.— Палохаеце, Віктар Іванавіч? Але вы маеце рацыю, першага за жабры возьмуць мяне.

Лупіновіч, які неспакойна пашкрэбваў то за адным вухам, то за другім, унёс такую прапанову:

— Навошта нам валаводзіцца з той пшаніцай? Што мы, акадэмія, павінны харчовае збожжа вырошчваць? Наша справа — навука. Аддайце, Віктар Іванавіч, гэту пшаніцу Міністэрству сельскай гаспадаркі, няхай раздаюць калгасам на пасеў.

Такое выйсце абрадвала і Грашчанкава, і Шэмпеля. Назаўтра Віктар Іванавіч быў у міністра. Міністр таксама не лыкам шыты. Ён сказаў, што насенне жэбракаўскай пшаніцы элітнае і яго трэба размнажаць, ды на высокім аграфоне. А дзе цяпер той высокі аграфон? Трэба высветліць, ці ёсць у міністэрства магчымасці скарыстаць гэта насенне. Ён абяцаў параіцца са сваімі спецыялістамі і даць адказ.

На нарадзе ў міністра спецыялісты ў адзін голас запярэчылі: «Калі міністэрства будзе распаўсюджваць «марганісцкую» пшаніцу, то, чаго добрага, могуць разагнаць усё міністэрства». Падставу для адмаўлення ад жэбракаўскай пшаніцы прыдумалі такую: насенне толькі што выйшла з доследнай стадыі і яго трэба прапусціць праз дзяржаўныя выпрабавальныя станцыі, каб ацаніць усе яго вартасці і толькі пасля гэтага перадаць у вытворчасць. Перадаць дзяржстанцыям, на выпрабаванне няма магчымасці, няма вольнай плошчы, усё там спланавана, усе плошчы размеркаваны па культурах і гатунках. На гэтай аснове міністэрства адмаўляецца ўзяць тэтраплоідную пшаніцу. Аб гэтым міністр і паведаміў прэзідэнту Акадэміі навук.

У Лупіновіча ўзнікла новая ідэя — прапанаваць гэту пшаніцу Белкаапсаюзу як харчовы прадукт, не кажучы ім, што гэта за пшаніца. Няхай пытлююць і прадаюць насельніцтву або самі пякуць булкі.

Грашчанкаў не згадзіўся з гэтай прапановай.

— Я гэтага рабіць, Іван Сцяпанавіч, не стану і вам не раю,—сказаў ён.—Рана ці позна выявіцца, якую пшаніцу мы прадалі. Не будзем падводзіць людзей.

Нарэшце прыйшлі да такога рашэння: нікому больш гэтай пшаніцы не прапаноўваць, прызнаць яе непрыгоднай да пасеву, змалоць і раздаць муку супрацоўнікам акадэміі.

Хоць і рабілася гэта негалосна, але нейкім чынам навуковыя супрацоўнікі даведаліся, што новы від пшаніцы Жэбрака аддалі на размол і муку будуць раздаваць супрацоўнікам акадэміі. Сярод вучоных узнік настрой—не браць мукі з тэтраплоіднай пшаніцы. Верагодна, што аўтарам такой ідэі быў акадэмік-біёлаг Ціхан Мікалаевіч Годнеў. Гэты, магутнага складу блізарукі чалавек, які заўсёды хадзіў з кійком і ніколі на яго не абапіраўся, у свае семдзесят гадоў па лес-

(Заканчэнне на стар. 12).

# «КАЛІ ДЗЕЛЯ ПАЭЗІІ ЖЫВЕШ»

Паэты звычайна імкнуцца даць сваёй кнізе як мага больш кідкую лірычную назву, як бы спадзеючыся і ёй запыніць увагу на сваім «дзіцяці». Гэтага не скажаш пра Леаніда Дранько-Майсюка. Назова першага яго зборніка — «Вандроўнік», праўда, не пазбаўлена рамантычнага адцення. Назвы наступных дзвюх кніжак — «Над пляцам» і «Тут»—утвораны з амаль нейтральных слоў. І ўсё ж, прачытаўшы апошні зборнік, адзначаеш невыпадковасць назвы, якая з'яўляецца добрай падсветкай ягонага зместу. Ёю падкрэслена, што паэтычная гутарка пойдзе пра жыццё т у т, на гэтай зямлі, якая завецца беларускай. Як жа цяпер жывецца тут? Якія змены адбыліся ва ўнутраным жыцці чалавека? (А паэзія ж заўсёды малюе нам менавіта ўнутраны стан чалавека, г. зн. вобраз яго думак, пачуццяў, перажыванняў, жаданняў, поглядаў на жыццё і г. д.). У жыцці, так бы мовіць, знешнім? Новае ўсё ж такі ёсць, пра што сведчаць хоць бы наступныя радкі зборніка:

**О, колькі кніг, о, колькі кніг!**
**Яны—малыя і вялікія —**
**Не спеў, а толькі хрып і крык**
**У параўнанні з т о ю кнігаю:**

**У дні шчаслівыя святой,**
**Святою і ў гадзіны гіблыя,**
**У параўнанні з кнігай той,**
**Якую называем Бібліяй...**

Нарэшце зразумелі і т у т незвычайную каштоўнасць Біблії, перасталі глуміцца над верай, як рабілі тое яшчэ нядаўна, у «дэманічную» эпоху. Адчулі, што няблага было б жыць па біблейскіх запаведзях, бо менавіта жыццё па іх—шлях да чалавечай дасканаласці, да аблегчанасці зямнога быцця. Адчулі, але яшчэ не жывуць. Крыху выпрасталіся, але не сталі ў поўны рост, хоць часам і цягне да Неба.

З'явілася т у т і надзея, што чалавек нашай дзяржавы

**Былой хлуслівай славе**
**Сцягі не дасць узвіць**
**І холадна дзяржаве**
**У вочы паглядзіць.**

Праўда, засталося яшчэ (і відаць, надоўга) і такое:

**Глядзяць, як на эмігранта,**
**На мяне, калі размаўляю.**

**Адкуль? З якой рэзервацыі?**
**З якой Беларусі такой?**
**Эх, вечная эміграцыя**
**На радзіме сваёй.**
**(«Эмігрант»).**

Нацыянальная тэматыка, якая займае вялікае месца ў творах Н. Гілевіча, П. Панчанкі, маладзейшых паэтаў С. Сокалава-Воюша, Л. Рублеўскай, І. Багдановіч, А. Сыса, В. Куртаніч, А. Бадака і інш., гучыць даволі моцна і ў творчасці Леаніда Дранько-Майсюка. Яго вершам, прысвечаным нацыянальнай тэматыцы, заняпаду роднай мовы, уласціва шчырасць, сапраўдны, непадробны боль. Менавіта ён, боль, прымусіў паэта напісаць наступныя радкі:

**Сто англій і дзвесце францый**
**Ніякай сваёю сілай**
**Не зробяць з мяне эмігранта,**
**А наша жыццё зрабіла.**

Супраць нігілізму і інертнасці, правінцыйнасці і недалёкасці мыслення чалавека накіравана і паэма Л. Дранько-Майсюка «Адам Нядзелька». У ёй намаляваны сацыяльны партрэт нашага сучасніка, абыякавага да сваіх каранёў, да роднай мовы, неразборлівага ў пакланенні перад сталіцай, якая ўяўляецца яму верхам дасканаласці. Паэма «Адам Нядзелька» — гэта і пратэст супраць бездухоўнасці, душэўнай ляноты.

**У свае поўных сорак год**
**Душа і думаць не гатова,**
**Што ёсць зямля, што ёсць народ,**
**Што беларуская ёсць мова,—**

заўважае аўтар пра свайго героя, празмерна захопленага матэрыяльнымі выгодамі, спакусамі матэрыяльнага свету, якія абрываюць высокія струны душы. У анатацыі гэты твор называецца сумна-іранічнай паэмай. Сапраўды, твор суправаджаецца пастаяннай аўтарскай іроніяй над сваім героем-абывацелем, над карцінамі сённяшняга жыцця, над сабой. Помніцца, паэтэса Таіса Бондар неяк адзначала ў друку, што ўсмешка, іронія ў вершах Л. Дранько-Майсюка высвятляе іншы, больш важкі змест сказанага. Гэта гаварылася, здаецца, яшчэ пра першы зборнік аўтара. Усмешка, іронія, самаіронія часта адчуваюцца і на старонках зборніка «Тут», абагачаючы эмацыянальную палітру вершаў, паэм і эсэ, паглыбляючы думку. Аднак здараецца, што паэт імкнецца схавацца за іх, пакінуць намёк на нейкі глыбокі сэнс там, дзе гаварыць пра глыбіню не прыходзіцца.

**Даруй, чытач, за страту часу**
**І за ідэю выбачай:**
**Адам—твой брат, ды за абразу**
**Ты гэта, браце, не прымай,—**

звяртаецца ён у фінале паэмы да чытача, як бы абясцэньваючы напісанае спадзяваннем на чытацкую паблажлівасць. І гэта самаіронія атрымліваецца крыху фальшывай і паказной.

Лірычны герой у Л. Дранько-Майсюка самакрытычны, ён імкнецца да душэўнай дасканаласці. Ад яго не раз пачуеш прызнанні накшталт гэтага: «Там душа мая, смеццем поўная, што не вымесці, не спаліць», або: «З маёй пачварнаю душой, З маёй душой недасканалай». Ён шмат разважае аб майстэрстве і рамястве. Яму ўласцівы незадаволенасць сабой, пакутныя думкі над пытаннем: «Вучнёўства — ці стане майстэрствам?» (верш «Вучань»). Часам яму здаецца, што ён «вучань, рамеснік, якому балюча глядзець на «майстэрствы» свае». Мабыць, не трэба поўнасцю атаясамліваць паэта з яго лірычным героем, але блізкасць іх у многіх выпадках відавочная. Падтруньванне над сабой, самапародыя крыху нейтралізуюць нервовыя інтанацыі ў роздумах аб уласных «майстэрствах». «І я суцяшаю сябе драбязой, як кожны звычайны паэт», — прызнаецца Дранько-Майсюк у вершы «Гады маладыя, а таленту брак...» Тэма вучнёўства і майстэрства ўзнікае і ў ягоных эсэ, якія таксама ўваходзяць у трэці зборнік. Паэту страшна стаць з в ы ч а й н ы м, сярэднім паэ-

Леанід Дранько-Майсюк. Тут. Вершы. Паэмы. Эсэ. Мінск. «Мастацкая літаратура», 1990.

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# «Веча...» збірае сяброў

Здаецца, няма патрэбы гаварыць пра кнігу паэзіі Янкі Сіпакова «Веча славянскіх балад», за якую аўтар у свой час быў удастоены звання лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР. На роднай мове «Веча...» вытрымала два выданні, апошняе — значна дапоўненае: паэт напісаў новыя балады. З гэтай унікальнай кнігай знаёмы і ўсесаюзны чытач — яна выходзіла ў перакладзе на рускую мову.

І ўсё ж не праміну выпадку, каб сказаць пра «Веча...» колькі слоў. Па-першае, такую ж назву мае і паэтава кніга, выпушчаная кіеўскім выдавецтвам «Радянський письменник» (у аснову яе і пакладзены гэты цыкл, хоць ім змест зборніка не абмяжоўваецца). Па-другое, сёння, калі разбураюцца традыцыйныя сувязі між народамі, нельга забываць, што ў лёсах славянскіх народаў шмат агульнага. Гаворка не пра нацыянальны дзяржаўны суверэнітэт, сумнення адносна яго быць не можа. Ён патрэбны (сапраўдны, а не ўяўны) у аднолькавай ступені і беларусам, і ўкраінцам, і рускім, і іншым славянскім народам. Размова пра тое, што нельга нам забываць і пра нашыя агульныя славянскія карані.

Кніга Я. Сіпакова, не пабаюся традыцыйнага выслоўя, інтэрнацыянальная па свайму зместу. Але ж яна — з'ява нацыянальнай культуры. У ёй шмат гаворыцца пра іншыя народы, у тым ліку і ўкраінскі. Як роўны сярод роўных пачувае сябе ў ёй і беларускі народ, які праз стагоддзі, напластаванні вялікіх і малых падзей, спрыяльных і неспрыяльных (на жаль, апошніх было куды болей), пранёс сваё імя, свой гонар, сваю годнасць.

...У госці звычайна ідуць з вітаннем таму, хто цябе запрасіў. Я. Сіпакоў гэтую даўнюю, спрадвечную славянскую традыцыю не забывае. Зборнік адкрываецца зваротам «Да ўкраінскага чытача». Праўда, гэта не звыклае прызнанне ў любові, а свайго роду песня ў прозе: «Люблю Украіну...», «Люблю ўкраінскую зямлю...», «Люблю ўкраінскі народ...», «Люблю ўкраінскую мову...», «Люблю ўкраінскую паэзію...», — усхвалявана, эмацыянальна, кранальна паўтарае аўтар.

Творы перакладзены У. Каламійцам, Р. Лубкіўскім, П. Перабійносам, П. Засенкам, У. Лучуком, Р. Кудлікам, В. Грабоўскім, Д. Галаўко, У. Мішчанкам, Т. Каламіец, А. Жолдакам, Л. Дацэнка, С. Цельнікам.

На завяршэнні кнігі стаіць слова П. Засенкі «Каб зноў араць і сеяць» — пра Я. Сіпакова і яго паэзію, пра стасункі з украінскай зямлёй. Таксама прачула сказана, таксама сардэчна.

Застаецца дадаць, што кніга Я. Сіпакова выйшла ў серыі «Братэрства». Гэтая бібліятэчка жыве ва ўкраінскім выдавецтве з 1965 года. **Няхай жа «Веча...» не будзе ў ёй апошняй беларускай кнігай!**

**А. АН-ЕВІЧ.**

ЧАСОПІСЫ: ЛІПЕНЬСКІЯ НУМАРЫ

# У ІМЯ ДНЯ СЁННЯШНЯГА...

Гэтым разам маё знаёмства з чарговымі нумарамі нашых літаратурна-мастацкіх выданняў пачалося з «Беларусі». І не толькі таму, што сёмы нумар яго раней за іншыя прыйшоў па падпісцы і трапіў у кіёскі. Атрымалася так, што ў час водпуску даводзілася шмат ездзіць, а ў дарогу, канечне ж, лепей браць не «тоўстыя» выданні.

З першых жа старонак адразу акунаешся ў споведзь (раздзел так і называецца «Споведзь») У. Бацкалевіча, Т. Бондар, Х. Лялько, А. Жамойціна (не, не паэта, а выкладчыка гісторыі). Назвы іх публіцыстычных выступленняў гавораць самі за сябе — «Парламенты ці статысты?», «Трымаць адказ нам, а не нябожчыкам», «Прыйшоў час...», «...І зноў баі «ад імя народа». Ёсць значныя думкі, нечаканыя выказванні, прысутнічае сваё стаўленне да далёка няпростых працэсаў, якія адбываюцца ў грамадстве. Да месца і партрэты аўтараў. Застаецца парадавацца за калег-журналістаў, аднак жа... Падобную падачу матэрыялаў даводзілася бачыць ужо неаднойчы. І партрэты аўтараў, і кожнаму выдзелена аднолькавая плошча. Дзе? Ды хоць бы ў «Московских новостях». Зрэшты, і «Свободные новости» ідуць тым жа шляхам...

Але, паўтараю, адбываецца пошук. Нешта, надараецца, і менш удаецца, хоць задумкі і самыя лепшыя былі.

Скажам, не ўпершыню выступае С. Кавалёў, ён, як бачна, будзе пастаянным вядучым новай рубрыкі «Кантэкст». Што ж, аўтар ён дасведчаны, мае свой погляд на многія літаратурныя з'явы. Не паўтарае ён прапісных ісцін і ў артыкуле «Новая еўрапеізацыя», калі аналізуе такія выданні, як «Літаратура-1», «Літаратура-2», «Ксэракс беларускі-1», якія выпушчаны, карыстаючыся словамі самога С. Кавалёва, «напаўсаматужным спосабам». Але ж у падагульненне сваёй гаворкі ён зазначае і іншае: «...выданні элітарныя, і таму нават маскультурныя практыкаванні выглядаюць на іх старонках як элітарны эксперымент». У такім разе ўзнікае пытанне: «А ці не занадта шчодры часопіс, аддаючы гэтым кніжкам ажно цэлую старонку?» А між тым, на розных сходах у СП Беларусі неаднойчы даводзілася чуць з боку супрацоўнікаў «Беларусі», што кніг яны амаль не рэцэнзуюць па той простай прычыне, што часопіс «тонкі» і няма магчымасці ахапіць неахопнае. Дык ці не важней пагаварыць, скажам, пра раман У. Дамашэвіча «Камень з гары», які дваццаць гадоў ішоў да чытача, пра кнігу «Пакаленні і папялішчы» А. Наўроцкага, што таксама не адзін дзесятак гадоў прабівала сабе дарогу. Нарэшце, выйшлі адметныя кнігі Р. Барадуліна, Н. Гілевіча, А. Жука, С. Законнікава і іншых пісьменнікаў... Не кажучы пра тое, што пабачыў свет чарговы том спадчыны М. Гарэцкага — своеасаблівае дапаўненне да ранейшага Збору твораў пісьменніка ў чатырох тамах.

Не збіраюся навязваць свае думкі ні С. Кавалёву, ні тым больш часопісу «Беларусь». Я пра іншае. Пра што гаварыў ужо неаднойчы. «Плачамся», што працэс нацыянальнага Адраджэння ідзе не так хутка, як хацелася б, а далей слоў часта не ідзем. Пра кнігі, якія назваў, у рэспубліканскім друку з'явіліся рэдкія — адзін, другі— водгукі. Маўчанне ж працуе на нашу нацыянальную немату, стварае для яе жыватворную глебу.

Што яшчэ ў сёмым нумары «Беларусі» вартае ўвагі? Вядома ж, невялікія апавяданні Я. Скрыгана «Качан мёрзлай капусты» і «Палярнае дзіва». Дзядзька Ян рэдка выступае ў друку, але калі ўжо нешта прапануе, дык гэта, мовячы яго словам, — с м а к а т а. Духоўная, эстэтычная. Усё тут дакладна ўзважана, выверана кожнае слова. Гэта тая сапраўдная літаратура, якая нараджаецца з самога жыцця і само жыццё паказвае ва ўсёй яго няпростасці, складанасці і непаўторнасці.

Харошы працяг у «Анталогіі старажытнай беларускай літаратуры». У. Караткі пераклаў са старажытнарускай старонкі летапіснага зводу «Аповесці мінулых гадоў»— «Адкуль пайшла руская зямля, хто ў Кіеве першым пачаў княжыць, і адкуль руская зямля паўстала».

І яшчэ адно вяртанне ў мінулае, праўда, у нядаўняе —«...З расейскай пераклад Ул. Дубоўкі». А. Пісьмянкова, якая працуе ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР, прапанавала малавядомыя ўзнаўленні па-беларуску асобных твораў Валерыя Брусава. Заслугоўваюць пашаны і ўспаміны З. Азгура пра П. М. Машэрава «Чалавек ён быў...»

Гэта — таксама мінулае, але якое паліта людской крывёю, пазначана зламанымі лёсамі — «Мужыкі і бабы, або Аб тым, як з дапамогаю кулака выпрамлялася партыйная лінія ў сялянскім пытанні»: архіўныя матэрыялы, вернутыя з небыцця (правільней, рассакрэчаныя) Т. Процька, Т. Антановіч і П. Лапецам.

Працягваецца публікацыя асноўных міжнародных дакументаў па правах чалавека (на гэты раз змешчана «Канвенцыя аб ліквідацыі ўсіх форм дыскрымінацыі ў адносінах да жанчын»). Працягваецца і цыкл «Народныя паданні» — плён супрацоўніцтва журналісткі І. Масляніцынай і мастака А. Марачкіна.

Прыемна адчуваць, як сталее талент В. Шніпа. В. Аксак, П. Шруба — менавіта іх творы нясуць асноўную паэтычную

**Крутнуць бы кола.**
**Я асцярожна кратаю.**
**Нікога навакола.**

**І кола я кручу,**
**Смялеючы ў налопе.**
**Цямнеецца ўваччу.**
**Я не крычу, маўчу.**
**Крычыць гузак на лобе.**

**Зляцела долу кола.**
**Прызнацца страшна дома.**
**Што ж, маю лоб не кволы —**
**Адно ўжо мне вядома.**

**Варона кар ды кар:**
**— Падзякуй за навуку.**
**Ну, раскажы, друкар,**
**Пабыў у друку!**
**Яшчэ і ў пераплёт**
**Патрапіш на праверку.**

**Кажу праз колькі год**
**Мой дзякуй Гутэнбергу,**
**Што даручыў станку**
**Свайму**
**Сказаць без груку**
**Худому хлапчуку**
**Пра сіңякі ў друку.**

**Дзе ўшацкая зіма,**
**Той боль і млоснасць!**

**Цэнзуры як няма,**
**Ды ёсць галоснасць,**
**Па прывіду дасюль**
**Ґалосіць прэса наша.**
**Няхай малоцяць куль,**
**Абы густая каша**
**У міску чытачу**
**Натоптвалася тою**
**Кіроўнаю пятою**
**Пад шолах кумачу.**
**Круціся, кола, ўсмак,**
**Абы чытач не перхаў.**

**А я за свой гузак**
**Удзячны Гутэнбергу.**

# Успамін пра Уладзіміра Караткевіча

**Пад час свайго зямнога вандравання**
**Ты не любіў дакладнасці адной:**
**Дзе нарадзіўся.**
**Вечнасць тая пані,**
**Што стане да вандроўніка спіной,**

**І ўсе яму паказвае разлогі,**
**Дзе спіць сабе**
**Гадоў наступных гром.**
**Ты нарадзіўся там,**
**Дзе ўсе дарогі**
**Сышліся,**
**Каб абнашчыцца Дняпром.**

**Ты весела сцвярджаў —**
**Іван Кабыла,**
**З якога дом Раманавых пайшоў,**
**Быў конюхам у дзеда люба-міла.**
**Твая радня царам чалом не біла,**
**Пагоняй гнала,**
**Біла прыбышоў.**

**Ты верны рыцар**
**Слоў крывіцкіх, гойных,**
**Якія не загубяцца нідзе.**
**Твой цень відушчы**
**Па забытых гонях**
**Ідзе**
**І за сабой сляпых вядзе.**

# Здаецца...

**З берага пачынаецца небасхіл.**
**З небам мора мжыста злілося.**
**Як Дубоўка пісаў,**
**Чуцен чаек сквіл.**
**Разлілося разнагалоссе.**

**І, здаецца, буру суцішыў Хрыстос,**
**Змусіў гнеў прарасці лясамі,**
**Рыбакам цвёрдаверцам зыначыў лёс,**
**Душ людскіх іх зрабіўшы лаўцамі.**

**Гэта ў моры ці ў небе**
**Трымцяць сляды!**
**Днее снег чаечага пер'я.**
**І душа прагне ґрапіць у невады**
**Веры,**
**Вырваўшыся з нявер'я.**

●

**Сухотныя крыгі.**
**Канае люты.**
**Варона сухар размочвае**
**У конскім следзе.**
**След непадкуты,**
**Як непадкутая доля воўчая.**
**А доля воўчая чэзне, менее**
**У прагнай дзяльбе.**
**І радзее зграя.**
**Адно вароны, як чорныя ґеніі,**
**Абсяг крыжуюць да небакраю.**

калі вяртаецца дамоў здалёк? Гняздо было пустое, бусліха недзе бавілася, а ён яшчэ на парозе заклякатаў, вітаючы буйным пошчакам свой дом на старой яліне. *Шчаслівая птушка.* Ёй і чалавек дапамагае будавацца, каб было весялей жыць пад шчаслівым крыллем.

— Во!—крыкнуў Міхалюк у хату да Малініных праз адчыненае акно.—Чулі?! Бусел на баране іграе! Гэты наш куток чысты, запаведны! Птушка пераборлівая, у благім месцы, казалі старыя людзі, не паселіцца. Чулі?!

Хініцеся ж вы, маўляў, да зямлі, спрыяйце ёй, птушка і тая разумее, што тут рай.

Толькі адышоўся, зірк праз плот, а каля пчол у Маліных ужо ходзіць сусед Чэсь, пэўна, пераводзяць сям'ю ў другі вулей. Як гэта? Чаму не ён сам? Чэсь у белым халаце, штукуецца, трэба, маўляў,— павучае Малініных, — мець халацік і ім. Спацыруе па садзе, галавой круць-круць, выбракавалі гараджане Міхалюка, цешыцца. Усё жыццё вочы порыць яму гэты Міхалюк. О! Малініны вучоныя, панімаюцца, хто, каторы з суседзяў вартаўнейшы, з кім трэба раіцца. О-о-о!

Сланяецца Міхалюк каля плоту, як наважаны, прыслухоўваецца. Хіба Малініны не ведалі, што ён з Чэсем не ходзяць па адных сцежках гадоў, можа, трыццаць з тае пары, як Паўліна адказала Чэсю, хаця і шлюб быў ужо з ім закуплены?.. Ведалі, сам ім неяк расказваў... Не-е-е, ён болей туды не пойдзе, каб і звалі... Пчолы любяць адны рукі, адно вока... Не-е-е, каб яны яго перабіралі, ягоную работу адкідвалі?..

Назаўтра ён паехаў з Малініным за новым *роем аж некуды за Мінск. «Той па*зваў, і ён, як хлопчык, пабег»,—дзівілася з яго Паўліна. Крыху, праўда, зхмысціўшыся, паехаў, што не разумее вучоны чалавек такіх простых рэчаў: няможна старых суседзяў ілбамі стукаць, людзі будуць з іх смяяцца. Ці ім, Малініным, гэта абы работу сваю хутчэй зрабіць, і ходу ў горад? А чыімі рукамі—не шманаюць? Што яны сабе надумаліся? У вёсцы, жыць, каб яны тое ведалі, што ў горадзе на камунальнай кватэры... І так і гэтак круціў Міхалюк у галаве і нарэшце зноў усё дараваў: абы, маўляў, нехта кратаўся побач, абы не пуставала сяліба.

На гэты раз трывога ішла на яго аднекуль збоку. Ага, так і ёсць: другі дзень няма бусліхі, не вярнулася ў гняздо, адзін бацька корміць дзяцей, баіцца надоўга адлучыцца. Дзеці галодныя, злуюцца, скубуць яго з усіх бакоў, піск, гвалт. І трэці дзень няма маткі. Міхалюк нікому нічога не казаў, праўда, быў Мацею абмовіўшыся. Хадзіў моўчкі, чакаў. Ніхто не заўважаў прапажы, і, здаецца ж, паглядалі людзі на гняздо, і любілі птушак. Трое дзяцей у гняздзе, ведалі, вялікія ўжо, тырчаць галовы, хіба будзеш лічыць кожан дзень? І Міхалюк не лічыў. Але быццам жыў і іхнім, птушыным, жыццём. Быў сярод іх, адчуваў гэтае пустое матчына месца. Звычайна яна стаіць на самым краёчку гнязда, а малыя пасярэдзіне, тоўстае захвосце ў птушанят, бы падушкі-ясічкі, пільнуецца, каб вецер не падняў, каб не зваліліся. Бусел астатнія дні начаваў ужо непадалёк на суседняй елцы,—не тоўпілася сямейства. Адчуў гэтую пустэчу Міхалюк, можа, ўдзень, а можа, сярод начы, калі павернешся на суку, прачнуўшыся, пазавеш яе кароткім пошчакам—і некаму табе адазвацца.

— Міхалюк! Ёсць твая бусліха! Вярнулася!—крычаў Мацей сярод двара. — Можа, атруту была ўхапіла дзе на полі ці ў правады ўкрыпалася...

А самому яму ўжо трэба было пакідаць «гняздо» Маліных.

— Я вам тры разы ў дзень мясное і чай салодкі з маслам, а вы... будзеце мне хадзіць па чужых хатах работу сялянам падрабляць?—выгаворвала Зоя Іванаўна.

Яна амаль крычала. Мацей уставаў, зноў садзіўся, імкнуўся нешта сказаць і не мог. Яна не заўважала яго балючага ад сораму, голага, як скальпіраванага, твару. Што было казаць, праўда, *памог* суседу накласці воз дроў, памог і скінуць. Як жыў Мацей дагэтуль, да Малініных, так і жыве. «Заве вёска, просіць, моліць, не адкажаш, бо пільніца. Ён тут не на пастой прыйшоў, не пастаялец які, каб адных іх пільнавацца. Праўда, мае ён моду кінуць-рынуць распачатую работу, з'ехаць у Мінск і зноў праз некаторы час вярнуцца, увесь абсіверапы, абабіты. Вярнуцца ў Соўкі—адусюль, як дамоў, як у сям'ю. Ніводная гаспадыня дагэтуль не адважылася выгаворваць яму, можа, і шкадуючы непрытульнага чалавека. А можа, стрымлівала і нешта ў яго самога абарончае. Быццам, праўду кажучы, *ужо даўно былі вынесены* вон абразы, але ж засталося святое месца. Пройдзецца па вёсцы, высока задраўшы галаў, як стары лось з рагамі на дзевяць сукоў, амаль нерухомае сухое цела нясе лёгка, бы ляціць, адно нагамі перабірае. Далёка ззаду заставаліся чужыя начлежкі, бадзяжныя дарогі, бясконцыя валацужныя сцежкі.

Вёска, даведаўшыся, што нарабілася у Маліных, сцішылася, абмерла. Бо не толькі карміла яго за работу і давала зарабіць на гарэлку. Вёска няўцямна пасялянску абараняла ягонае святое месца, ягоную ганаровасць. А можа, маўляў, знойдзе сабе ўдавіцу божы чалавек, а *можа, прыжэніцца як, абсядзе...*

Толькі ён парог Маліных пераступіў, і ўжо яго завалалі суседзі страху правіць. Ужо ёсць дзе сталавацца.

Міхалюк хадзіў невясёлы. Усё яму выдавалася, *што нехта ссоўвае яго і ссоў*вае з бацькавай лавы, усё бліжай і бліжай да краю. Месціцца нехта побач шырока, як не з нагамі, ні на кога не шманаючы. Не, гэтыя вучоныя суседзі акрэслівалі вакол сябе круг быццам па-гарадскому: толькі хата ім свая, а вуліца ўжо чужая, і вёска чужая. І чаго, каб хто запытаўся, увесь час ён сам шчэміцца, набіваецца да іх у дружбу? Не з любосці яны сюды і ехалі. Самі расказвалі, як першую ноч вясной не даехалі былі да сваёй дачы, загразла машына, можа, за тры-чатыры хаты да сваёй. Дык пабаяліся пакінуць на дарозе, пайсці дамоў начаваць, ці паклікаць каго з мужыкоў, каб *памаглі выцягнуць, яшчэ ж і агні ў вок*нах гарэлі. Не захацелі пазычацца — палеглі ў машыне і начавалі... Не шукалі яны тут сабе людзей, не спадзяваліся на іх... Прыйшла ўчора Зоя Іванаўна па малако, жаліцца: гляджу, кажа, а суседка Гэльця зайшла ў яе сад, спынілася, разглядаецца, бы гаспадыня, і трускалкі стала рваць, есці. Хацела, кажа, выйсці, ды пастыдалася. Ай, якія тут у вас людзі! Якія злодзеі!.. Міхалюк галавой пакруціў, нічога не адказаў. Э-э-э, думаў сабе, дрэнь дзела, суседка ж не ў кош збірала, у рот паклала якую ягадзіну. І яму самому карцела паспытаць, ці не звяліся Юзюковы (былы гаспадар хаты) ягады, *надта былі харошыя, заводныя, пэўна, яшчэ з панскага саду, казалі...* Думаеце, купілі хату і ўжо гаспадары? Гэта вам не дачны шкут, а вёска. А гэтая хата на суседчыных і на ягоных каранях стаіць. Усё навокал, і лес, і поле, і пагоркі, і вунь тое кустоўе —усюды ягонае карэнне. Нясе неяк яшчэ з вясны Малінін на плячах дубкі маладыя з лесу, плот будзе ставіць, слупы патрэбны. Ён сякерай па дрэве ўдарыў, а яму, Міхалюку, увушшу зазвінела. Ці ж запытаўся, дзе сеч, што сеч? Адным словам, дачнік, абы лета пералетаваць. Вунь той соснік, як грабянём матчыным вычасаны, калі яшчэ ён з бацькам хату сабе новую ставілі. Меркаваліся, куды каторае дрэва, бы ў сваім садзе... Там, каля лесу, былі даўней, да калгасаў, іхнія сенажаці. Ступіш нагой— усюды на цябе поўныя, як вока, крыніцы глядзяць. Асушылі балаціну, закрыліся вочы зямныя, толькі чубатая дзікая трава ветрае... Там пагоркі, усё пагоркі, бы бабы сабраліся, паселі, папалуднаваўшы ў полі, адваліліся на хвіліну, на круглых каленьках напятыя падалы спадніцы. Качаецца сонца з адной цёплай пеляны на другую. Цень ад хмары перапаўзае з пагорка на пагорак, быццам адсядзелі бабы ногі, здранцвела варочаюцца з клуба на клуб... Выгадаваўся Міхалюк тут, выкачаўся, бавілі яго гэтыя пагоркі. Во аж куды корань ягоны дастае. Зямля тут увосень, яшчэ да дажджоў, сопкая, ляжыць лёгкая, бы з млына, перацёртая каранямі, перабраная рукамі, паміж пальцаў перасыпаная — цёплая... Спавіты ногі сцежкамі. Ідзеш сабе, ідзеш і не заўважыш, як ужо стаіш на пагорку, дзе быў панскі палац. Трава ў расе, як у малацэ, слізкае яно, мяканькае, тонкае—і босыя ногі не забаляць, не застудзяцца. Раптам пад пагоркам бы нешта вялікае, дужае пабегла праз сцежку. Толькі бліснула, выгнуўшыся, цёмная рабрыстая спіна. І быццам ведаеш, і бачыш штогод, а міжволі запаволіш крок. Ручай бяжыць чысты, бы ў нешта ўверчаны. Ён жа па *зямлі, па гразі, мала і па траве, а змарг*нуў парушынку, змыў набок—і чыста, як у боскім вочку. Цвіце бэз. Куст вялікі, высока ў небе, кветкі простыя, далікатна падстроеныя нябеснай сінькай. Дробныя, простыя кветкі, не прышчэпленыя, як было на пачатку гэтага свету. А можа, гэты бэз ужо пасля цябе самога, пасля твайго жыцця на зямлі, здзічэлы без чалавека, адзінокі. Бэзавы куст забыцця. Стаіш пад ім зданяй. Падымаецца, варочаецца ў вірах часу пад тваімі нагамі каменне, грузалле падмурку...

Узлаваўся Міхалюк. На яго яшчэ памяці і той палац, і сад з кветкамі. Сіллю тут усё спажывалася, гвалтавалі зямлю, камандавалі наезджыя начальнічкі, пакуль не знішчылася ўсё панскае. Ды і сялянскае ўжо ледзь хліпае. Во ён, гарадскі начальнік, можна сказаць, здзекуецца з яго, Міхалюка. Якіх тут ён знайшоў *злодзеяў у вёсцы? Ну, думае, пайду ска*жу Маліным усё, што маю. Хіба яны за дурня яго лічаць? Успомніць Андруку, як на іхнім дворышчы ўсю леташнюю восень ляжала чарэпʼе выдзеўбленых кармавых калгасных буракоў. Мяшок, бачыў зайшоўшы, стаяў у сенцах. Бацвінне абрэзана коратка, пад нулёўку, тырчэлі высока забрытыя запатылкі, мяшок не завязваўся. Кралі і не хаваліся, маўляў, што гэтых вясковых асцерагацца. Куры на той сырызне ў пер'е не маглі ўбрацца, хадзілі па дворышчы голыя, бы яны з халадзільніка паўцякалі... Нясе, сам бачыў, Андрук вядро каласоў з калгаснага поля курам, а зверху ўкінуў гронку рабі*ны. Як на тое насустрач ягоная Паўліна.* Не захацеў, каб яна даходзіла: што нясе, адкуль? Баба лягчэйшая на язык, яшчэ скажа на вёсцы, пусціць пагаласку, а ён жа хваліцца ўсім, што сябруе з вучоным суседам. Сказаў Паўліне, што нёс Андрук курам вітаміны. Тая толькі запыталася: «А можа, і нам паспрабаваць даваць рабіну?» Маўляў, разумны Малінін, не зашкодзіць павучыцца... Глядзяць у горадзе, каторага чалавека вартаўней паставіць на тую ці іншую работу, перабіраюць. А зямлю, бачыш, хіба кожнаму можна даверыць? Няўжо гэта самая астатняя, як той казаў, служба на свеце—зямлю ўрабляць? Ці хто ў калгасе з начальства запытаўся ў Маліных, як яны збіраюцца ў вёсцы жыць? Чаго едуць? Па што? Укінулі іх на звод племя, не іначай...

Падышоў Міхалюк да веснічак—зачынена. Бы нешта згубіўшы тут ад самай раніцы, стаяла непадалёк, разглядалася Гэльця.

— Па-ехалі твае Маліны ў Мінск. Чакай праз тыдзень, прыпруцца, каб спешкі ўкапаць... Курыцу засеклі, селі ў машыну і па-ехалі! ! пер'е во не сабралі...

Каля самай вуліцы на пні ляжала на траве белая гурбачка, запяклася кроў.

— Як украўшы, бы цыганы,—адсеклі галаву і ў кішэню,—дзівілася Гэльця.— *Ты ж, чалавек, да гэтай курыцы і гаво*рыш, і корміш, з рук, можна сказаць, і шкадуеш, і цешышся... Вунь якая, ай, як ружовая ўсё роўна ходзіць? Чыя такая?

Міхалюк перабіраў вачыма пер'е курыцы, тая жыравала непадалёк, можа, Чэсева? Ага, праўда, ружовая, з-пад кожнай перыны ледзь прабівалася неспадзявана, быццам і не колер, а святло. Сонца, бачыш, заходзіць за лес, а начуе, можа, і на курасадні... Птушка! Такая ўжо курыная доля, такі ў яе кароткі век. Трэба ж па-людску спажыць, калі так, з павагай. У яго самога дзеля гэтага калодка служыць, на баку стаіць, каб і куры ягонай работы не бачылі... А на гэтым жа *пні пры вуліцы бабы любяць збірацца.*

— І я мела куры рабыя з ружовым. Адна благая баба — не буду табе казаць хто — папрасіла, каб я дала ёй квактуху пісклянят вывесці. Мужык мой усадзіў у сумку курыцу, а каб жа сумку не запэцкаць, паслаў саломы. Тая баба ўзяла курыцу, а тады: «Ты мне і саломку гэту вытрасі». Дамоў прыйшоў і кажа, як было. «Нашто салому аддаў? Яна ж гняздо забрала!» — сварылася на яго. Куры і праўда зваліся...

— Паўліна знайшла поклад на дворышчы... Трэба — во добра, што ўспомніла — спаліць на асінавых дрывах, тады не зашкодзіць аніякая благая варажба... — *схамянуўся Міхалюк, азірнуўшыся* на Чэсевы вокны.

Вечарэла. З агарода ад Маліных праз плот цягнула маладым кропам, хоць ты яго ламай, крышы ў свежую бульбу, гатуй вячэру. *Яблыкі ўжо добра завязаліся,* антонаўкі блішчаць рабрыстымі чаркамі, поўнымі зялёнага зелля. Пахла трускалкамі—пэўна, Маліны збіралі ягады перад ад'ездам. Да ўсяго Міхалюку дабаўляўся гаркавы смак бязроднага непрытульнага малачаю — ён самасейкай буяў і ў агародзе, і ў садзе, і на панадворку, пад вокнамі.

Закрычала птушка, апошняя, пэўна. Быццам пыталася, перад тым, як зачыніць дзверы на ноч: «Ці ўсе дома? Ці ўсе дома?» «Усе, усе...» — адазваўся Міхалюк.

Над усімі хатамі і гнёздамі ўзвышалася, бы палац, вялікае ўтульнае буслова селішча. Там таксама ўжо кладліся спаць

**ІНТЭРВ'Ю Ў НУМАР**

# ЧАС ДЛЯ «музычных бакалаўраў»?..



**2 верасня — Дзень ведаў, пачатак новага года ў навучальных установах рэспублікі. Гутарым з рэктарам Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі народным артыстам БССР Міхалам КАЗІНЦОМ.**

**— Міхал Антонавіч, новы год — новыя праблемы?..**

— Бадай што так. Прыгадваю нашу гутарку, якая адбылася 4 гады таму. Яна была надрукавана ў «ЛіМе» пад загалоўкам «Час пераменам спрыяе», і ў маіх словах там было многа аптымізму. Яго не паменшала, бо час і цяпер спрыяе пераменам да лепшага. Але цяжкасцяў у нас прыбавілася. І гэта натуральна: праблемы сур'ёзныя, глыбокія, вымагаюць грунтоўных рашэнняў. Гаворка не пра рэарганізацыю навучальнага працэсу ў БДК, а пра вырашэнне праблем матэрыяльнай базы, што пацягне за сабою і карэнныя змены ў навучальным працэсе.

**— І што можа змяніцца?**

— Змены павінны быць істотныя. Распрацавана праграма развіцця БДК да 1995 года, прынятая нашым вялікім саветам, з якой мы выходзім неўзабаве на калегію Міністэрства культуры БССР. Тут мы трактуем кансерваторыю не проста як ВНУ, якая рыхтуе адпаведных спецыялістаў, а як цэнтр музычнай адукацыі рэспублікі. Мяркуючы пра перспектыву, мы імкнёмся сачыць за *дасягненнямі* еўрапейскіх музычных школ, ладзім сувязі з Германіяй, Фінляндыяй, былі ў Польшчы, Бельгіі, знаёмімся таксама з навучальным працэсам у музычных установах, з методыкамі працы калег у Югаславіі, Нарвегіі, ЗША і інш. Але аддаём належнае і набыткам БДК у падрыхтоўцы музычных кадраў. На фоне зарубежных устаноў мы выглядаем у цэлым не горш, а ў нейкім сэнсе і лепш. Таму траістую сістэму, што склалася ў нас (школа — вучылішча — кансерваторыя), нельга разбураць, яе трэба заглыбляць.

Дык вось, на калегію міністэрства мы ідзём з канкрэтнай праграмай. Гаворка ў ёй пра рэарганізацыю БДК, якая фактычна з'яўляецца цэнтрам беларускага музычнага выканальніцтва і педагогікі, станаўлення кампазітарскай школы, — у Беларускую акадэмію музыкі. Ёсць для гэтага і гістарычныя падставы: на Беларусі з XVI стагоддзя існавалі менавіта акадэміі (у Вільні, Берасці, Пінску, Менску, Магілёве, Воршы). Прыспеў час наладзіць двухступенчатасць адукацыі ў кансерваторыі, тыпу: 3 гады — агульная вышэйшая музычная адукацыя з уключэннем гуманітарнага цыклу (гісторыя Беларусі, гісторыя мастацтваў, філасофія, сусветная гісторыя і да т. п.), з атрыманнем ступені бакалаўра; другая ступень— 1,5—2 гады паглыбленага вывучэння спецыяльнага музычнага цыклу з атрыманнем звання «спецыяліст-магістр». Далей можа быць асістэнтура-стажыроўка, аспірантура з атрыманнем навуковай ступені. Прычым перавод «з прыступкі на прыступку» не аўтаматычны: студэнт павінен даказаць сваё права на званне як *бакалаўра, так і магістра.*

Педагогі ў працэсе навучання павінны назіраць за развіццём, схільнасцямі студэнта, той жа будзе сам распараджацца сваім творчым лёсам. Такім чынам мы адыдзем ад заганнай ураўнілаўкі ў вышэйшай музычнай школе — а ў цяперашніх умовах пад наяўны стандарт адукацыі індывідуальнасць, асоба таленавітага чалавека часта не падыходзіць, здольныя людзі губляюць дынаміку творчага росту, развіцця.

**— Вось перада мною ваша праграма. Падрабязная настольні, што ў дзвюх фразах і не перакажаш. І сапраўды многа новага: забеспячэнне адзінства навучання і творчасці; удзел у рабоце міжнародных устаноў і асацыяцый; запрашэнне на аснове кантрактаў айчынных і замежных музыкантаў у якасці выкладчыкаў; арганізацыя навучання па спецыяльнасцях арган (клавесін), *оперна-сімфанічнае* дырыжыраванне, гукарэжысура, выкананне музычнага фальклору; установка ў вучэбным корпусе аргана; перадача ў кансерваторыю калекцыйных інструментаў з Дзяржаўнага музея БССР; *стварэнне камп'ютэрызаванага* інфармацыйнага цэнтра; выданне супольна з Саюзам кампазітараў малатыражнай газеты; распрацоўка канцэртнага абанемента для залы БДК... І гэта яшчэ не ўсё!**

— Так, праграма досыць разгорнутая. Але, як я ўжо казаў, трэба разабрацца з матэрыяльнай базай. На сённяшні дзень яе праблемы вырашаны, так бы мовіць, касметычнымі метадамі, часова. Добра, што Міністэрства культуры дапамагло нам у набыцці інструментаў: раяляў і духавых. Але гэта не здымае нашых агульных глыбокіх праблем: студэнт і педагог, уваходзячы ў будынак кансерваторыі, павінны апынявацца ў экалогіі мастацтва, у свеце музыкі і пад уплывам яго пачувацца ўвесь час, маючы вольны доступ да літаратуры і фанатэкі, да рэпетыторыяў. Пакуль да гэтага далёка, і таму, на якіх прыгожых тэорыях мы б ні спрабавалі выхоўваць сваіх студэнтаў, гэта будуць няшчырыя, пустыя словы, не пацверджаныя практыкай, якая, вядома, мацней за тэорыю.

На пленуме Музычнага таварыства я гаварыў пра пакуты студэнтаў ды педагогаў, пра вымушанае пераабсталяванне так званых санвузлоў пад вучэбныя класы. «ЛіМ» друкаваў фрагмент таго выступлення. Мы вельмі ўдзячныя, што і «Крок» зацікавіўся нашымі праблемамі, паказаў аб'ектыўныя ўмовы, у якіх працуе калектыў музыкантаў. І проста горка ад таго, што без адказу застаўся адкрыты ліст дзеячаў культуры да першых асоб рэспублікі, надрукаваны летась у «Советской Белоруссии». Сярод тых, хто падпісаў яго, — Н. Гілевіч, І. Чыгрынаў, М. Яроменка, А. Вярцінскі, А. Мальдзіс, а таксама вядомыя музыканты. У іх ліку і народныя дэпутаты. Не заўважылі, не пачулі! Праблемы БДК засталіся яе ўнутранымі праблемамі, вырашыць якія сваімі сіламі яна не ў стане. Мо Вярхоўны Савет, урад, уся рэспубліка, нягледзячы на цяжкасці, павернуцца, нарэшце, тварам да будучыні нашай культуры— Беларускай акадэміі музыкі?

**— Міхал Антонавіч, але яшчэ 4 гады таму вы гаварылі пра магчымасць атрымаць дадатковыя памяшканні ў Верхнім горадзе і пра будаўніцтва новага корпуса побач з БДК...**

— Запланаваная прыбудова да кансерваторыі ўсё яшчэ ў праектах. Абмеркаванне адпаведных прапаноў праходзіла складана, бо месца, вызначанае пад яе, сам будынак БДК шмат значыць у горадабудаўнічым плане, і архітэктары вельмі клапоцяцца пра гэтую справу. Але ў 1992 г. мае быць закончана праекціроўка і распачата будаўніцтва.

Што дасць нам прыбудова? Будзе вырашана праблема бібліятэкі. Якім музычным фондам мы валодаем! Але які да яго доступ — уявіць цяжка! Фактычна, ёсць сховішча для 2375 тамоў унікальнай музычнай літаратуры. Пабудова бібліятэкі з чытальняй створыць тыя ўмовы, у якіх студэнт атрымае вольны доступ да багатага збору нот, кніг. Далей. Мы—**беларуская** кансерваторыя, і ў нас ёсць кабінет народнай музыкі, які назапасіў унікальныя запісы песеннага, танцавальнага фальклору розных рэгіёнаў. Запісы вымагаюць расшыфроўкі і вывучэння. Праз гэта чалавек павінен адчуваць сваю «зямельнасць» і адчуваць сябе на гэтай зямлі. Адпаведная праца і цяпер вядзецца, але ёй не нададзены належны статус, бо няма як разгарнуцца і прылучыць да яе **ўсіх** спецыялістаў. Мы дзівімся, як за мяжой на розных фэстах дзесяткі тысяч людзей стыхійна запяваюць ды пяюць суладна песні свайго краю. Мяне гэта заўжды *хвалюе, кранае...* А чаму **мы** так не пяём? Многія гады мы дэкларавалі праз сацрэалізм «зямельнасць» нашага мастацтва, але апынуліся разам з ім у даволі цёмным тунэлі. Мо дзякуючы ўдасканаленай адукацыйнай сістэме зможам запаліць агонь, на які можна будзе ісці ўсім людзям, каб затым асвятліць увесь тунэль?

Кансерваторыя без кабінета гуказапісу, без адпаведнай фанатэкі — таксама вынік нашай цяперашняй цеснаты. Уявіце сабе плён такога навучання. Гэта амаль тое самае, што паставіць чалавека сярод лесу, дзе спявае мноства птушак: недасведчанаму там будзе проста добра, але ён не здатны будзе адрозніваць пачутыя гукі, галасы — для гэтага трэба ведаць, якая птушка як пяе. Вобразна кажучы, нам трэба вучыць вызначэнню «птушыных *галасоў». Фарміраванне* музыканта ідзе праз слуханне. І музыку можна палюбіць, толькі слухаючы. І назапашваць у фанатэцы трэба не толькі ўзоры музыкі, кансерваторыі трэба ствараць фонд **усёй** музыкі, якая ёсць у свеце.

Прыбудова дапаможа вырашыць праблему і фанатэкі, і試 opernай студыі БДК. Пры ўмовах, у якіх існуе студыя цяпер, можна здзіўляцца творчай апантанасці людзей, занятых гэтай справай. Сёння мы маем толькі камерную залу на 250 месцаў, у якой проста перад публікай сядзіць аркестр, а на невялічкай сцэне адбываецца дзеянне. Прыбудова — гэта магчымасць стварыць маладзёжны оперны тэатр з адпаведнымі службамі, якія забяспечваюць жыццё найскладанага тэатральнага арганізму і з якімі павінен знаёміцца студэнт, каб палюбіць пах куліс — як пах добрай кухні.

Таксама праектуюцца і аўдыторыі па 100 квадратных метраў — пад малыя залы, рэпетыторыі, аўдыторыі для студэнцкіх акадэмічных канцэртаў. Сёння ж студэнт без сцэны (да яе атрымлівае доступ толькі на дзяржэкзаменах ці канцэртах) пазбаўлены той атмасферы, у якую павінен уваходзіць як будучы музыкант-канцэртант ці артыст аркестра.

Прыемна паведаміць, што гарвыканком ужо даў кансерваторыі будынак па вуліцы Кірылы і Мяфодзія, што дазваляе крыху зменшыць напружанасць жыцця ў галоўным корпусе. А ўрад у 1988 г. пастанавіў перадаць пад вучэбны корпус будынак аблсаўпрофа на плошчы Свабоды — побач з намі. Па сваёй значнасці, мудрасці такое рашэнне сугучнае стварэнню 60 гадоў таму самой Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Таму што цяперашні галоўны будынак (1957 год) быў разлічаны на 200—250 студэнтаў — па тым часе лічба здавалася недасягальнаю, адчувалася перспектыва, але ж сёння ў нас амаль тысяча студэнтаў! Асабліва «горача» пад час сесій. Увогуле ж расклад заняткаў арганізуецца з разлікам на паўсотні наяўных класаў ды адміністрацыйных памяшканняў: сучасны камп'ютэр спыніўся б, калі б яму задалі такую неверагодную задачу!

**— А людзі не спыняюцца...**

— Магу зазначыць, што з часу нашай мінулай гаворкі ў кансерваторыі адкрылася 5 новых кафедраў. Да маёй асаблівай радасці — і кафедра беларускай музыкі. Нарэшце пра яе ў нашых сцэнах загаварылі як пра з'яву, што развіваецца не толькі з 17-га года, але і ў гістарычным аспекце. Колькі людзі жывуць на гэтай зямлі, столькі вякоў стваралася тут і музыка. І многае з яе не толькі ўжо адноўлена, ацэнена, а дзе-нідзе і прысвоена іншымі культурамі.

Створаны і музычна-педагагічны факультэт БДК (працуе ў Магілёве) — з мэтаю на базе фундаментальнай акадэмічнай адукацыі рыхтаваць спецыялістаў з кансерваторскім дыпломам для агульнаадукацыйных школ, школ мастацтваў, для ясляў, садоў, каб і туды прыходзіў музыкант - педагог.

**— Мяняецца стаўленне кансерваторыі да нашага музычнага мінулага —яна паварочваецца тварам да гісторыі; мяняюцца яе адносіны і да будучага— яна далучаецца да справы эстэтычнага выхавання. А што можна сказаць пра стасункі БДК з сённяшнім заканадаўствам аб мовах?**

— У 1991-92 навучальным годзе ўводзяцца для нашых студэнтаў як *абавязковыя* прадметы беларуская мова (на 1-м курсе) ды беларуская літаратура (на 2-м). Студэнты, якія валодаюць беларускай мовай, могуць быць вызвалены ад яе вывучэння. Для педагогаў, іншых супрацоўнікаў БДК паводле іх жадання будуць наладжаны курсы беларускай мовы ды літаратуры. Працэс беларусізацыі ідзе няпроста. Але псіхалагічна людзі ўсё больш набліжаюцца да неабходнасці гэтага працэсу. У нас ужо і пасяджэнні вучонага савета вядуцца па-беларуску, і выкладанне беларускай музыкі ды народнай творчасці — таксама па-беларуску, хоць справа нялёгкая: вельмі спецыфічная ў музыкантаў тэрміналогія. Ужо чуецца наша мова і на калідорах — гамоняць паміж сабою і студэнты, і выкладчыкі. Прыспешваць жа гэты працэс, «рэвалюцыянізаваць» я б не стаў: любая, самая добрая справа, калі яе насаджаць прымусова, дае хваравітыя вынікі. І я не хацеў бы, каб родная мая мова зрабілася гэткім «раздражняльнікам». Я веру ў тое, што працэс пойдзе натуральным шляхам. Вось у нас ужо нараджаецца і суполка ТБМ...

**— Рынак не скасуе планаў?**

— У сувязі з рынкам...

(Працяг на стар. 12).

# І НАСТАЎ ТОЙ ДЗЕНЬ...

**Яна ніколі не вагалася: ехаць —не ехаць. Дарога на Бацькаўшчыну доўга была зачынена. Ды і што яна ведала пра сваю неласкавую радзіму, калі ў пяць гадкоў вывезлі дзяўчынку разам з бацькамі і братамі на чужыну — спачатку ў Нямеччыну, потым далей? Але сэрцам-душою так і не здолела адарвацца ад Беларусі. І мову, як каштоўны каменьчык, берагла, і вопратку арнаментамі расквечвала, і танчыла, і пляла. Бацька, як жывы быў, усё прасіў: «Дзе б ні была, дачушка, не забывай, што ты — беларуска. І мовы нашае не цурайся». Даўно і бацьку і маці прыгарнула амерыканская зямля. І свае дзеці выраслі, унукі пайшлі. Ужо і дарогу адкрылі. І многія *землякі-эміґранты* з *радасцю* падаліся да родных берагоў. А яна ўсё не спадзявалася, што прыйдзе гэты дзень.**

**Цяпер, калі ў жыцці Евы Яраховіч адбылася ці не самая *значная (з яе слоў) падзея*, прыгадваю нашу першую, у Амерыцы, сустрэчу, нетаропкія размовы. То высока-мажорна, то ўсхвалявана яна вымаўляла: «Маё Палессе! Мая Вулька! Мая Беларусь!» Але пра тое, каб паехаць туды... ні слова. Няпроста было варушыць болькі-крыўды, што засланілі ўсе шляхі вяртання. Ды і Еве самой, відаць, *нялёгка было* нават думкамі вяртацца ў далёкі час, у сялянскую хату сярод палёў і балот на хутар Галы Бор. І ўсё ж яна аддалася ўспамінам, прыадчыніла завесу часу. І горка было гэта слухаць. Я і цяпер вагаюся: пісаць пра гэта ці не? Тады ж была вайна, такое ліха, што ні Бог, ні чорт не разбярэ. Ды і мінула — паўстагоддзя. Што *можа* захаваць дзіцячая памяць? Ці варта варушыць і зноў нагадваць? Але крыўдна за іхнія зламаныя лёсы, за нанесеныя Бацькаўшчыне раны, за мільёны ахвяр...**

**Той адзіны эпізод палескага дзяцінства Ева памятае выразна. Помніць, як у іхнюю хату прыйшлі людзі па бацьку, шукалі яго, не знайшлі — называлі яго здраднікам. Тады накінуліся на *маці, білі*, *крычалі*, пагражалі. Былі тыя людзі з лесу — свае, савецкія... Моцна напужалася дзяўчынка...**

**Угаворвалі Еву ўсім светам. Якраз «полацкі» руплівец *Сяргей Карміловіч збіраўся*, некалькі старэйшых з Кліўленда, Міхась Мітраховіч з сынам. Браты прасілі, каб каменьчыкаў родных прывезла. Ды, урэшце, паглядзець Беларусь, якой ні думкамі, ні справамі не здрадзіла, пра вольнасць якой заўсёды марыла і сама, і бацькі, і многія беларусы ў эміграцыі. А колькі дапамогі апошнімі часамі зрабіла, колькі грошай ахвяравала і на адраджэнцкі рух, і ахвярам чарнобыльскай радыяцыі! Толькі апошні прыклад можа шмат сказаць — хворае на лейкемію дзіця з Мазыра разам з маці знаходзіцца цяпер пад апекай Евы і лечыцца з дапамогаю кліўлендскіх беларусаў. Урэшце, шмат якіх краёў і земляў пабачыла яна ў вандроўках. І, відаць, *яшчэ* пабачыць.**

**І Ева вырашыла: паедзе.**

**Настаў той дзень і тое імгненне, трывожнае, трапяткое, калі амерыканская беларуска па волі лёсу апынулася там, дзе яе ведалі і памяталі добрай памяццю (дзе яна нікога не ведала, не памятала), дзе даўнія і свежыя магілы Яраховічаў, дзе абапал дарогі шумяць таўшчэзныя бярозы, дзе гэтая назва — Галы Бор. Былі слёзы, і не было слоў. Кружылася галава і самі падкошваліся ногі. Жанчыны павялі яе ў лес (раней было поле і балота) і паказалі месца, дзе стаяла хата. Дзіўна — незарослы плямік сярод лесу. Тыя, хто быў побач, і старыя кабеты, і цікаўныя хлапчукі, не цураліся сваіх слёз і сваёй радасці. Упершыню яны перажывалі свята сустрэчы, якой магло ніколі-ніколі не адбыцца. І быў той дзень узнагародай за многія пакуты і за грахі.**

**Я выключаю дыктафон і ўяўляю, як недзе ў Амерыцы сабраліся беларусы слухаць хрыплаваты голас Евы, пяшчотна *глядзяць* на палескую зямельку і з хваляваннем углядаюцца ў твары на здымках. Можа, стаў радасным і для іх той дзень, які ўжо ніколі-ніколі не паўторыцца.**

**Анатоль КЛЯШЧУК.**

# Марганісцкая грэчка

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).

вічных прыступках уздымаўся з подбегам, быў вядомы незалежнасцю ў думках і поглядах. Ён адкрыта абураўся, што ў зародку губяць найкаштоўнейшы гатунак шматхрамасомнай пшаніцы. Знішчэнне такога насення Годнеў называў архісярэдневяковым варварствам.

Настрой навукоўцаў не браць мукі з жэбракаўскай пшаніцы, стаў вядомы кіраўніцтву акадэміі. І яно прыняло Саламонава рашэнне: раздаць муку тэхнічнаму персаналу—рабочым складаў, прыбіральшчыцам, вартаўнікам, лабарантам. Яны не ведалі, якую муку ім збіраюцца раздаваць.

Дзве супрацоўніцы-статысткі з майго сектара таксама атрымалі муку. Прыйшоўшы на работу пасля выхаднога дня, я застаў у сваім сектары нешта накшталт маленькага мітынгу. Усе мае супрацоўнікі стаялі сярод пакоя і аб чымсьці ажыўлена, з захапленнем гаварылі. Дзве дзяўчыны, якія атрымалі муку, як толькі ўбачылі мяне, кінуліся насустрач і, перабіваючы адна адну, хвалілі муку, якую атрымалі перад выхадным. Яны пяклі з яе бліны, піражкі, коржыкі.

— Ой, якое цеста! Як падыходзіць! А якія бліны і піражкі пульхныя, смачныя! Проста цуд! Мука, мусіць, амерыканская.

Я згадзіўся, што мука напэўна амерыканская. Ні я, ні мае супрацоўнікі не адважыліся расказаць праўду пра гэту цудоўную муку.

Размол тэтраплоіднай пшаніцы быў толькі сімптомам надыходзячага вандалізму ў навуцы.

У ТОЙ ЧАС, калі Жэбрака звольнілі з з пасады прэзідэнта Акадэміі навук БССР, супраць Лысенкі, як ні дзіўна, нарастала хваля крытыкі і выкрыцця яго лжэтэорый. Лысенкаўскія пражэкцёрскія рэкамендацыі пачалі правальвацца адна за адной. Калгасы і саўгасы сталі адмахвацца ад яго яравізацыі, не выратавалі бульбу на поўдні летнія пасадкі яе, не павысіла ўраджаю так званая чэканка бавоўніка, ніхто так і не ўбачыў новых лысенкаўскіх гатункаў палявых культур, выведзеных, як ён абяцаў, за два гады.

Т. Д. Лысенка і яго падручны, а дакладней—вядучы тэарэтык і натхніцель І. І. Прэзент пачалі актыўную контратаку з мэтай поўнага разгрому класічнай генетыкі.

Ён адбыўся на сумна вядомай жнівеньскай (1948 г.) сесіі Усесаюзнай акадэміі сельскагаспадарчых навук імя Леніна. З дакладам «Аб становішчы ў біялагічнай навуцы» выступіў сам Лысенка. Даклад яго папярэдне быў прагледжаны і ўхвалены Сталіным, але Лысенка сказаў пра гэта толькі ў канцы сесіі.

У сваёй пастанове сесія аб'явіла савецкую класічную, а па вызначэнні Лысенкі, фармальную генетыку, вейсманісцка-марганісцкай, рэакцыйна-ідэалістычнай плынню ў генетыцы. Сесія запатрабавала «карэннай перабудовы навукова-даследчай работы ў галіне біялогіі і перагляду праграм вучэбных устаноў па раздзелах біялагічных навук».

**Зараз жа пасля сесіі была праведзена шырокая чыстка ад мендэлістаў-марганістаў ва ўсіх навукова-даследчых і вышэйшых навучальных установах краіны, у якіх выкладалася генетыка. Загадам міністра вышэйшай адукацыі СССР ліквідаваны дзесяткі кафедр і лабараторый, тысячы выкладчыкаў і навуковых супрацоўнікаў, хто не раскаяўся, не перайшоў на пазіцыі Лысенкі, былі звольнены з работы, пазбаўлены магчымасці весці навуковыя даследаванні. Быў звольнены з пасады загадчыка кафедры генетыкі Ціміразеўскай сельскагаспадарчай акадэміі і акадэмік Антон Раманавіч Жэбрак. Кафедру яго бесцырымонна заняў Лысенка. Вядома, што быў адпаведны загад міністра аб прызначэнні яго загадчыкам, але студэнты назвалі гэты акт акупацыяй кафедры генетыкі акадэмікам Лысенкам.**

**Жэбрак па-ранейшаму, да сесіі, заставаўся супрацоўнікам АН БССР, захавалася і яго лабараторыя ў Батанічным садзе. У 1948 годзе, напаўлегальна, дзякуючы падтрымцы Якуба Коласа, вяліся яшчэ доследы з грэчкай. Даследаванні з грэчкай, па даручэнні Антона Раманавіча, вяла Соф'я Уладзіміраўна Горленка, у той час малодшы навуковы супрацоўнік. У сучасны момант яна доктар біялагічных навук, загадвае лабараторыяй фітапатагенных арганізмаў Батанічнага саду.**

**Пасля сесіі УАСГНІЛ Грашчанкаў ліквідаваў лабараторыю Жэбрака, звольніў яго ад загадвання, звольніў і яго супрацоўнікаў Соф'ю Горленку, Зінаіду Бекіш, Лізавету Марковіч і іншых. Жэбрак — прафесар, доктар біялагічных навук, акадэмік — у росквіце сваіх творчых сіл застаўся поўнасцю беспрацоўным. І супрацоўнікі яго доўга не змаглі знайсці сабе работу, іх цураліся начальнікі, як «мендэлістаў-марганістаў». Падаць голас за іх ніхто не мог, гэта было за межамі магчымага кожнага асобнага чалавека. Магло толькі павялічыць лік «мендэлістаў-марганістаў», лік пакутнікаў.**

У лістападзе 1948 года адбылося пашыранае пасяджэнне прэзідыума АН БССР. Старшыняваў прэзідэнт Грашчанкаў. Абапал яго сядзелі два віцэ-прэзідэнты — Якуб Колас і Лупіновіч. Коласу, відаць, не здаровілася. Ён быў пахмуры, стомлены і часта пакашліваў, але, як заўсёды, уважліва слухаў выступленні і штосьці час ад часу занатоўваў у свой блакнот.

На гэтым пасяджэнні разглядалася пытанне аб арганізацыі экспедыцый па вывучэнні глебаў, сістэмы рэк, лясоў, балот, па пошуку выкапняў у нетрах беларускай зямлі. Пасяджэнне ўжо завяршалася, Грашчанкаў устаў, каб прамовіць пажаданне поспехаў у вызначанай важнай рабоце, як яго, просячы прабачэння, перапыніў Шэмпель. Ён падаў прэзідэнту нейкую паперу і растлумачыў:

— Гэта, Мікалай Іванавіч, наша просьба да ўрада,—і нагадаў пра пастанову Савета Міністраў рэспублікі, якая абавязвала акадэмію разгарнуць даследаванні па вывядзенні новых гатункаў грэчкі і распрацоўцы агратэхналогіі яе вырошчвання.—Каб выканаць гэту пастанову, нам патрэбны сродкі. У нас ні лабараторыі, ні штатаў няма. Няма нават насення грэчкі.

Колас раптам ажывіўся. Ён адсунуў свой блакнот убок, узняў галаву, працягнуў руку да Шэмпеля і са здзіўленнем і неўразуменнем прамовіў:

— Як — няма насення грэчкі для доследаў? А дзе ж насенне той грэчкі, Віктар Іванавіч, што расла за Батанічным садам?

— Канстанцін Міхайлавіч, дык тая ж грэчка марганісцкая, жэбракаўская, — збянтэжана адказаў Шэмпель.

— Дык ліха з ім, з тым марганізмам, але ж затое грэчка! Зярняты — як арэхі! Сам бачыў. І лабараторыя была. Разбурылі, людзей разагналі. Цяпер усё нанова... — са злосцю прамовіў Колас.

— А колькі цэнтнераў, Канстанцін Міхайлавіч, той «марганісцкай» грэчкі? — пацікавіўся акадэмік-медык Іван Трафімавіч Цітоў. — Аддайце яе нам, медыцыне. Грачаныя крупы—не харч, а лекі!

— Колькі цэнтнераў? — перапытаў Колас. — У пазамінулым годзе Антон Раманавіч прывёз у Беларусь тры... эхкх... эхкх... эхкх... трыста... эхкх... эхкх... эхкх... — цяжка закашляўся ён.

— Трыста цэнтнераў! — радасна падхапіў Цітоў. — Цэлае багацце! Аддайце яе нам!—рашуча запатрабаваў ён.

— Не цэнтнераў, Іван Трафімавіч, а зярнят, — адкашляўшыся, удакладняе Колас. — Антон Раманавіч прывёз у Беларусь трыста зярнят грэчкі. Але ж не простай! Ён вывеў зародак новага віду грэчкі. Як казаў сам Жэбрак, для вывядзення з тых зярнят устойлівага віду спатрэбіцца некалькі гадоў упартай працы. Усё ж такі, Віктар Іванавіч, дзе тое насенне, што сабрана з доследных дзялянак за Батанічным садам? — неадступна дамагаўся Якуб Колас.

— Канстанцін Міхайлавіч, я не маю дачынення да тых доследаў. Яны вяліся ў Батанічным садзе. Няхай дырэкцыя Батсаду і адказвае,—пакрыўджана адказаў Шэмпель і сеў.

Мікалай Дзмітравіч Несцяровіч, супрацоўнік Інстытута эксперыментальнай батанікі, сказаў, што грэчку Жэбрака не ўбіраў ніхто. Лабараторыю яго ліквідавалі, дзяўчат звольнілі. Хто яе мог убіраць? Ён сказаў, што сам бачыў здратаваны жывёлай доследны ўчастак Жэбрака.

— Лабараторыю ліквідавалі, людзей разагналі. Можна арганізаваць новую лабараторыю, набраць людзей, але ці можна знайсці новага Жэбрака? І ці можна аднавіць страчанае насенне? Скажу больш — ці зможа, ці ўдасца самому Жэбраку аднавіць тое насенне,— не супакойваўся Колас.

Цяжка сказаць, ці ведалі Колас і Несцяровіч, што сталася з тым насеннем. Бадай што не ведалі. Я даведаўся пра лёс таго насення праз дзесяткі гадоў ад Соф'і Уладзіміраўны Горленкі. Яна сказала, калі іх абразліва і крыўдна звольнілі, а Антону Раманавічу дарога да яго доследаў была закрыта, яны тайна зжалі грэчку і насенне пераслалі Жэбраку ў Маскву.

Пасля выступлення Коласа ўсе замоўклі. Сядзеў моўчкі і Грашчанкаў, у задуме моршчачы лоб. Потым устаў і звярнуўся да Коласа:

— Канстанцін Міхайлавіч, не збіраюся вам пярэчыць, але марганізм ёсць марганізм, рэакцыйная навука. Пазіцыі нашы, нашай акадэміі ў адносінах да мендэлізму-марганізму вызначаны не намі. Змяняць іх мы не маем намеру. За што Жэбрака знялі? За марганізм. А цяпер мы будзем яго рэабілітаваць? Усім вядома, што Жэбрак Антон Раманавіч вучыўся ў лабараторыі Моргана ў Злучаных Штатах Амерыкі. У самога Моргана! Чаму Жэбрак, як некаторыя іншыя вучоныя, не раскаяўся, не прызнаў свайго заблуджэння? Значыць, ён перакананы, упарты марганіст. З другога боку—якое дачыненне мы маем да жэбракаўскай грэчкі? Мы не маем юрыдычнага права на яго грэчку. Аўтарскае права на насенне, новай, як тут называлі, грэчкі належыць Жэбраку і больш нікому. Няхай ён робіць з ёй, што хоча. А вам, Віктар Іванавіч, разам з Іванам Сцяпанавічам,— кіўнуў ён на Лупіновіча,— трэба распрацоўваць грунтоўны дакумент Савету Міністраў: разгорнутую праграму даследаванняў з грэчкай, дакладны пералік патрэбных рэчаў, іх кошт кожнай паасобку, паказаць, па якой валюце набываюцца. Таксама і на насенне грэчкі. А гэта што ж — цыдулька, — і Грашчанкаў кінуў паперку на стол перад Лупіновічам.

— Ясна. Усё ясна! У нас свая дарога,—сказаў Грашчанкаў і стаў заклапочана згортваць свае паперы. Раптам ускінуў галаву, нібы ўспомніўшы, прамовіў: — Ага, пасяджэнне скончана.

Якуб Колас устаў, узяў свой блакнот і першы цяжкім крокам накіраваўся да дзвярэй.

НАБЛІЖАЛАСЯ ТРЫЦЦАТАЯ гадавіна стварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі — 1 студзеня 1949 года. З гэтым юбілеем супадала 20-годдзе арганізацыі Акадэміі навук БССР. Гэтым урачыстасцям была прысвечана сесія Акадэміі навук і наладжана выстаўка даваенных дасягненняў і пасляваеннага аднаўлення народнай гаспадаркі рэспублікі. На сесію Акадэміі навук прыехаў з Масквы і акадэмік Антон Раманавіч Жэбрак.

У дні гэтых юбілеяў, выпадкова, непадалёк ад рэспубліканскай бібліятэкі, я сустрэўся з Пятром Глебкам.

— Куды шыбуеш? — спытаў ён.

Я паказаў на бібліятэку.

— А на выстаўцы ты быў? Не. То хадзем пабачым, — прапанаваў ён.—Нельга ж прапускаць такое.

Я згадзіўся. Дарэчы, выстаўка была блізка, у фае Дома Савецкай Арміі.

Мы пачалі агляд экспанатаў проста з уваходу, ідучы ад стэнда да стэнда, не зважаючы, хто вакол нас. Глебка знянацку сутыкнуўся з кімсьці плячо ў плячо, павярнуўся, просячы прабачэння, і ўбачыў перад сабой... Жэбрака. Антон Раманавіч стаяў перад намі і неяк разгублена ўсміхаўся. З твару ён мне падаўся стомленым, змучаным, але з чыстымі, яснымі вачыма, спакойным позіркам. Глебка ўхапіў яго за абедзве рукі і, трасучы іх, паўтараў:

— Антон Раманавіч, Антон Раманавіч, рады вас бачыць. Як маецеся? Як жывяце?

— Дзякую. Жыву вось. Надзеі, як сказаў паэт, юнакоў жывяць. Хоць я далёка не юнак, але надзея мяне не пакідае.

Ён паведаў нам свае сумныя навіны. Застаўся беспрацоўным. Як непрыкаяны абівае парогі розных устаноў. (Праз нейкі час мы даведаліся, што ён уладзіўся на кафедру батанікі Маскоўскага інстытута фармакалогіі).

— Але — што мой лёс? Што будзе з краінай, у якой дазволена невукам знішчаць навуку?.. Мы і так адстаём ад Захада ў развіцці фундаментальных навук на добрае паўстагоддзе. Замест навуковых даследаванняў слухаем бязглуздыя абяцанні факіра. Ды яшчэ пад бурныя воплескі. Ды яшчэ з ухвалай аж адтуль... — узмахнуў ён рукой угору.—Але доўга так цягнуцца не можа. Мыльны пухір абавязкова лопне.

Я пацікавіўся, што сталася з яго шматхрамасомнай пшаніцай і грэчкай. Антон Раманавіч сказаў, што пшаніца выйшла на калгасныя палі, а з грэчкай даследаванні працягваюцца. Ён пацвердзіў словы Якуба Коласа, пра тое, што прывёз у Беларусь 300 зярнят зародку новага віду грэчкі. Але ўсяго такіх зярнят у яго было 600. Палову ён высеяў у Маскве. Такая прадбачлівасць была неабходнай. Цяпер, калі доследы па праграмах класічнай генетыкі забаронены, ён перайшоў на падпольнае даследаванне. У яго ёсць невялічкі дачны ўчастак у раёне знакамітай станцыі Крукава. На гэтым участку ён і вядзе доследы.

На маё пытанне, што сталася з доследнымі пасевамі, якія былі за Батанічным садам, ён адказаў коратка:

— Не прапалі.

Развітваючыся з намі, Антон Раманавіч сказаў, усё роўна як даючы нам абяцанне:

— Даследаванняў сваіх я ні ў якім разе не пакіну. Хіба што расстануся з жыццём або... з воляй.

На жаль, яму не ўдалося давесці свае доследы да канца. Усё абарвалася 20 мая 1965 года. Рысу пад яго жыццём падвёў чарговы інфаркт.

# Час для «музычных бакалаўраў»?..

(Працяг. Пачатак на стар. 10).

**Кансерваторыя мае дзяржаўны заказ на падрыхтоўку спецыялістаў, выкананне яго — непахісны наш абавязак. Але з моладзі, якая паспяхова здае ўступныя экзамены, не ўсе праходзяць па конкурсе — чаму б не вучыць такіх студэнтаў за плату, па заяўках і на сродкі канцэртных арганізацый, калі тыя зацікаўлены ў падрыхтоўцы для сябе музыкантаў-спецыялістаў? У нас ёсць пэўны вопыт і ў працы з замежнымі студэнтамі, якія навучаюцца па класах фартэпіяна, скрыпкі, харавога дырыжыравання, народных інструментаў, — з Югаславіі, Алжыра, В'етнама, Польшчы, Калумбіі. Добрыя ўмовы ў інтэрнаце спрыяюць развіццю такой формы навучання: стопрацэнтная забяспечанасць жыллём, блокі на 2—3 чалавекі, з усімі выгодамі, з фартэпіяна. Мяркуем пашыраць кантакты з рознымі краінамі і навучаць замежных студэнтаў за валюту. Валюта патрэбная на папаўненне інструментарыя, набыццё аўдыёвізуальнай тэхнікі, капіравальных апаратаў і да т. п. Плануем і ладзіць платныя паслугі нашаму насельніцтву, спадзяёмся атрымліваць даходы ад выдавецкай дзейнасці, якую таксама мае разгарнуць будучая акадэмія музыкі.**

**— Міхал Антонавіч, на пачатку новага навучальнага года варта было б успомніць пра зусім яшчэ нядаўнія падзеі года мінулага, з якімі звязаны не толькі ўнутраныя справы БДК, а і перспектывы нашага музычнага жыцця. Конкурсы выканаўцаў...**

— У гэтым сэнсе мінулы навучальны год быў ураджайны. Прайшлі рэспубліканскі ды міжрэспубліканскі конкурсы выканаўцаў на драўляных духавых інструментах, і адпаведная кафедра БДК паказала пад час іх значны творчы патэнцыял, яе выхаванцамі ўжо цікавяцца знаўцы за мяжой. Таму на снежань 1992 г. упершыню плануецца наш, мінскі міжнародны конкурс выканаўцаў на драўляных духавых. А сярод сёлетніх пераможцаў адзначу флейтыста Я. Віданава (клас Н. Аўраменкі), габаіста В. Татур і І. Ляшчышына (клас Б. Нічкова), кларнетыста А. Вакуленку (выхаванец Мінскага музвучылішча), фагатыстаў А. Мурзіча і А. Мазурына (клас У. Будкевіча).

Прайшоў і II Рэспубліканскі конкурс выканаўцаў імя І. Жыновіча. Ён, можа, і не даў столькі яркіх асоб, як першы, але па агульным узроўні быў вышэй. Як лідэр конкурсу вылучылася цымбалістка В. Мішула (клас Т. Сергяенкі). Выявілася, аднак, што спаборніцтвам музыкантаў-народнікаў цесныя сённяшнія рамкі — і геаграфічныя, і жанравыя. Будучы конкурс імя І. Жыновіча думаем зрабіць ужо адкрытым, запрашаць на яго выканаўцаў з іншых рэспублік, апроч салістаў дапускаць да ўдзелу ансамблі — менавіта ансамблевай ігрой заўжды была і адметная, і моцная народная музыка.

Другі Рэспубліканскі конкурс імя Л. Александроўскай выявіў некалькі яркіх імёнаў: Л. Лют, В. Курбацкая (клас Т. Ніжнікавай) і А. Гардынец (клас А. Генералава). Ды зноў жа, адчулася пэўная абмежаванасць: удзельнічалі ў конкурсе, толькі вакалісты-студэнты БДК. У будучым мяркуецца зрабіць і яго адкрытым з удзелам моладзі з братніх рэспублік. Суверэнітэт Беларусі проста абавязвае нас дбаць пра творчы аўтарытэт сваіх конкурсаў. Абавязвае думаць пра тое, што толькі праз мастацтва, якое збліжае людзей, мы зразумеем, як усе народы, такія розныя, патрэбны адно аднаму.

**— Дзякуй, Міхал Антонавіч, за размову. Чакаю таго часу, калі паняцці «Беларуская музычная акадэмія», «бакалаўр», «магістр музыкі» не проста ўвойдуць у наш ужытак, а і напоўняць навучальны працэс новым сэнсам.**

С. БЕРАСЦЕНЬ.

# РЭЛІГІЯ І МОВА

**Леанід ЛЫЧ,**
доктар гістарычных навук

(Працяг. Пачатак у №№ 29, 31—34).

## 6. ЧАРГА ЗА БЕЛАРУСКІМІ КАТОЛІКАМІ, ЦІ СПРОБЫ РАСПАЛЯЧЫЦЬ КАСЦЁЛ

Расправіўшыся з уніяцтвам, Найсвяцейшы сінод пры поўнай падтрымцы дзяржаўнай улады паспрабаваў павесці на тэрыторыі Беларусі наступ і на каталіцкую царкву. Падстава была быццам бы і важкая, аргументаваная: вярнуць рускай праваслаўнай царкве нашчадкаў тых далёкіх вернікаў, якіх каталіцкае духавенства адабрала гвалтам і падкупам у яе з дапамогай афіцыйных уладаў Вялікага княства Літоўскага, а пазней — Рэчы Паспалітай. Пад час скасавання Брэсцкай царкоўнай уніі на заходнерускіх землях заставалася 2,5 мільёна католікаў мясцовага паходжання, якіх ксяндзы імкнуліся выхоўваць у польскім духу. У ходу быў выраз: дайце ксяндзам толькі волю, і часы езуітаў адразу ж вернуцца.

Шмат трагічнага давялося зведаць католікам Беларусі пасля разгрому паўстання на чале з Кастусём Каліноўскім. Удзел многіх з іх у шэрагах паўстанцаў не выклікаў аніякіх сумненняў у мясцовай адміністрацыі, што пастаралася выкарыстаць для сваёй выгады праваслаўная царква. Са згоды свецкіх уладаў у многіх месцах пачалося пераабсталяванне касцёлаў пад праваслаўныя цэрквы, што мітрапаліт Сямашка назваў «збавіцельскай адплатай». Як і некалі ў горшыя часы для уніяцтва, ізноў запалалі кастры, у якіх было спалена шмат рэлігійнай літаратуры на польскай і лацінскай мовах.

Спадзяваліся, што гэта паспрыяе пераводу каталіцкіх храмаў у праваслаўныя. Каб пахіснуць, аслабіць прыхільнасць беларусаў да каталіцкай веры, ізноў задумалі былі па ініцыятыве начальніка Заходне-Рускага краю Э. Баранава малітвы за бацюшку-цара «гаварыць у касцёлах не на польскай мове, а на прыроднай мове прыхаджан, г. зн. па-руску, як гэта рабілася да 50-х гадоў». Дзіўна, але факт: супраць такога гвалту выступіў сам мітрапаліт Сямашка. Зыходзячы з былога вопыту, ён заяўляў, што выкладанне Закона Божага і казанні пропавядзяў ксяндзамі па-руску (а, як вядома, апошнія вельмі часта гаварылі з прыхаджанамі не так па-руску, як пабеларуску. — **Л. Л.**) будзе толькі садзейнічаць павышэнню іх аўтарытэту і сярод мясцовага праваслаўнага насельніцтва, чаго нельга было дапусціць, бо галоўным лічылася перацягванне вернікаў з каталіцкай рэлігіі ў праваслаўную, а не наадварот.

Асабліва задаволенай магла быць руская праваслаўная царква вынікамі 1866 года, калі ёй удалося перацягнуць на свой бок больш за 25 тысяч беларускіх католікаў. За гэта многія духоўныя асобы атрымалі салідныя грашовыя ўзнагароды.

Але з якой лёгкасцю беларусы уніяцкай ці каталіцкай канфесій прымыкалі да праваслаўя, гэтак жа лёгка яны і пакідалі яго, варта было толькі трохі папрацаваць ксяндзам. І яны не спалі. Ужо ў наступным, 1867 годзе пачаўся адваротны працэс — адыход з праваслаўя ў каталіцызм. Прычым у такім памеры, што сам расійскі імператар Аляксандр II даў сябе запалохаць. Неадкладна арганізуецца ў чэрвені яго паездка ў Вільню, дзе ім у час выступлення перад новапрынятымі ў праваслаўе было сказана: «...ведайце, што раз прыняўшым праваслаўе я ні ў якім выпадку не дазволю і не дапушчу вярнуцца ў каталіцтва; ведайце гэта і скажыце гэта ад мяне ўсім сваім». Упартыя, вальналюбівыя на той час беларусы, мусіць, і самі не прынялі да сэрца пагрозлівых слоў імператара і не давялі іх да ведама сваіх блізкіх, бо варта было ў сакавіку 1868 года пасаду начальніка Паўночна-Заходняга краю заняць А. Патапаву, які не ўтойваў сваіх сімпатый да палякаў, як адразу ж пачалося ў невядомых да гэтага памерах вяртанне былых уніятаў у лацінства. Усё гэта абавязвала да больш тонкай палітыкі ў сферы рэлігійнага жыцця на Беларусі.

Ізноў, у каторы ўжо раз, аўтарытэтнымі духоўнымі і свецкімі асобамі прапаноўвалася пачаць распалячваць каталіцкую царкву праз увядзенне ў яе богаслужэння на рускай мове. Прычым асноўнымі праведнікамі такой палітыкі было задумана зрабіць саміх ксяндзоў, пусціўшы дзеля іх вярбоўкі ў ход дзе ўгаворы, а дзе і прымус. Меркавалася, што ўсё гэта будзе зрабіць параўнальна няцяжка, бо абсалютная большасць беларусаў-католікаў мае справу з польскай мовай толькі ў час службы ў касцёлах, а па-за іх межамі карыстаецца «рускай» мовай. Вядома ж, беларусы зносіліся паміж сабой не на рускай, а на роднай мове, але нежаданне прадстаўнікоў дзяржаўных і царкоўных улад прызнаць рэальнае існаванне яе вымушала ісці на свядомае скажэнне фактаў, называць белае чорным.

Такі варыянт укаранення рускай мовы ў каталіцкія храмы меў і даволі сур'ёзных праціўнікаў. Многіх законна пужала, што падобная акцыя будзе расцэнена міжнароднай грамадскасцю як факт грубага ўмяшання рускай мясцовай адміністрацыі і рускай праваслаўнай царквы ва ўнутраныя справы каталіцкай рэлігіі. Як-ніяк за яе спіной стаяў сам рымскі папа, у канфлікт з ім нікому не хацелася ўступаць. Таму людзі больш цвярозага розуму прапаноўвалі дзейнічаць з неабходнай асцярожнасцю і абачлівасцю. Заслугоўвае ўвагі пазіцыя папячыцеля Віленскай вучэбнай акругі І. Карнілава, аўтара брашуры «Стоит ли вводить русский язык в костелы западных губерний?» (СПб, 1897 г.). Каб не даць католікам западозрыць, што іх хочуць схіліць у праваслаўе, ён лічыў, што патрэбна ў першую чаргу падараваць у цэлым моц каталіцкай шляхты ў Паўночна-Заходнім краі, якая размаўляе на рускай (беларускай. — **Л. Л.**) мове. На яго думку, стварэнне рускага паводле мовы набажэнства каталіцызму з прычыны яго залежнасці ад Рыма больш небяспечнае за бытаванне на Беларусі польскай мовы. Каталіцызм меркавалася перамагчы праз аднаўленне моцы і першынства праваслаўя і рускіх культурных пачаткаў у гэтым краі, шырокае развіццё рускай адукацыі, уздым маральнага ўплыву праваслаўнага духавенства.

Прыгадаем, што гэта пісалася ў канцы XIX стагоддзя, так што каталіцызм на Беларусі аказаўся для рускай праваслаўнай царквы і самой Расійскай імперыі куды больш моцным арэшкам, чым уніяцтва. І моцным не ад таго, што да каталіцкай рэлігіі нібыта добраахвотна цягнулася мясцовае беларускае насельніцтва, а таму, што яна мела вялікага заступніка ў асобе рымскага папы. Калі дзесьці і ўдалося перавесці каталіцкія прыходы разам з іх ксяндзамі ў праваслаўную веру, укараніць рускую мову ў касцёлы, дык гэта стала магчыма толькі з ужываннем прымусу ці пэўных падачак у выглядзе прырэзак да зямельных участкаў сялянам каталіцкага веравызнання. Словам, даводзілася дзейнічаць тымі ж метадамі, якія ў свой час пускаў у ход каталіцызм для перацягнення ў сваю веру праваслаўнага насельніцтва Вялікага княства Літоўскага.

На першы погляд, здаецца, рабілася нямала і даволі абдумана па схіленні беларускіх католікаў у праваслаўе, але яго служыцелі ніяк не былі задаволены вынікамі. Мяркуючы нават па тых невялікіх па колькасці фактах супраціўлення такой канфесійнай метамарфозе, пра што мною гаварылася вышэй, відаць, як моцна памыляўся Сямашка, калі гаварыў, што для схілення католікаў заходніх губерань Расіі ў праваслаўе дастаткова будзе якіх-небудзь пятнаццаці гадоў. З гэтым не ўдалося ўправіцца і больш як за паўстагоддзе. І тут няма чаго здзіўляцца. Справа ж датычыла не колішніх беларускіх уніятаў, што на сваёй уласнай зямлі пачувалі сябе сіротамі, а католікаў, за спіной якіх, як ужо неаднаразова падкрэслівалася, стаяла не толькі магутная польская каталіцкая царква, але і сам Ватыкан.

Характэрная каталіцызму ў цэлым пэўная талерантнасць ва ўжыванні моў у час богаслужэння з цягам часу выяўлялася, хаця і ў нязначных маштабах, і на Беларусі. З паглыбленнем усведамлення некаторымі святарамі свайго беларускага паходжання нараджаліся і ў іх у час глыбокага роздуму аб лёсе Бацькаўшчыны думкі аб мэтазгоднасці гаварыць з Богам мовай яе карэннага насельніцтва. Зразумела, увасобіць такія думкі на практыцы было нялёгкай справай і не толькі з-за нядобразычлівых адносін кіраўнікоў каталіцкага духавенства Польшчы да беларускай культуры і мовы, але і адсутнасці беларускамоўных малітоўнікаў, Святога Пісання. У такіх неспрыяльных умовах нацыянальна самасвядомыя ксяндзы вымушаны былі абмяжоўвацца правядзеннем казанняў і выкананнем пазакасцёльных рытуалаў у беларускай мове.

Апошняя акалічнасць і спрыяла таму, што сярод вернікаў каталіцкай царквы былі досыць паважлівыя адносіны да сваёй культуры і мовы. Не дарэмна сярод пачынальнікаў новай беларускай мастацкай літаратуры асоб каталіцкага веравызнання было больш, чым сярод праваслаўнага. Дый працэсы моўнай асіміляцыі ў асяроддзі каталіцкага насельніцтва не набылі такога пагражальнага характару, як сярод праваслаўнага.

Шмат зрабілі на пачатку нашага стагоддзя для ўкаранення беларускай мовы ў набажэнства каталіцкай царквы мінскі біскуп З. Лазінскі, рэктар Мінскай духоўнай семінарыі Ф. Абрантовіч, віленскі біскуп Ю. Матулайціс (літовец па нацыянальнасці), святары А. Станкевіч, Я. Германовіч. Апошняму належыць такое горкае прызнанне: «Якое ганебнае няшчасце, што нашае каталіцтва ды праваслаўнае духавенства так доўга было адлучана ад народа і вучыла сваіх братоў аб святых праўдах веры ў чужых і варожых мовах». Хацелася б, каб сённяшняе пакаленне праваслаўнага і каталіцкага духавенства добра ўдумалася ў гэтыя словы, бо стан спраў у набажэнстве практычна застаецца такім, якім ён быў у час прамаўлення Я. Германовічам гэтых слоў.

## 7. НА ЗЛОМЕ ЭПОХ

Напярэдадні Кастрычніка і ў першыя гады пасля яго на Беларусі так і не было жаданага міру паміж праваслаўнай і каталіцкай рэлігіямі, што адмоўна адбівалася на самых розных баках развіцця беларускага народа, паглыбленні працэсаў яго нацыянальнай кансалідацыі. Канфесійныя канфлікты моцна хвалявалі нацыянальна свядомую частку беларускай інтэлігенцыі, якая ўсімі сіламі імкнулася дапамагчы паразумецца людзям аднаго бацькі і адной маткі, што не па сваёй волі павінны былі падпарадкоўвацца Найсвяцейшаму сіноду ці рымскаму папу.

Не мог абысці гэтай праблемы і малады песняр нашай гаротнай Бацькаўшчыны Якуб Колас. Чытаючы яго артыкул «Вера і нацыянальнасць», не верыцца, што ён напісаны ў 1914 годзе,— гаворка ідзе нібыта пра наш сённяшні супярэчлівы час. Дазволю сабе прывесці важнейшыя месцы з прыгаданага артыкула Якуба Коласа: «Апрача палітычнай і эканамічнай залежнасці, была і другая прычына, асляпіўшая светапогляд беларуса,— гэта рэлігійная нязгода двух хрысціянскіх абрадаў у нашым краі: каталіцтва і праваслаўя. Гэтыя дзве царквы... раздзяляюць наш ядыны народ на дзве часці» не толькі па рэлігіі, бо змаганне дзвюх рэлігій забівае ў беларусаў «свядомасць і пачуццё нацыянальнай еднасці». Убіваючы у галаву, калі католік — значыць паляк, калі праваслаўны — «расіец, і каталіка-беларуса павінен сцерагчыся, бо ён паляк».

(Працяг на стар. 14—15).




З серыі «Помнікі дойлідства Беларусі». Мастак У. БАСАЛЫГА

ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

# Усевалад ІГНАТОЎСКІ: МАЛАДЫЯ ГАДЫ

**Гісторыкі нашы ў даўгу перад гісторыяй. Хоць, канечне, даўжнікамі яны рабіліся не заўсёды па сваёй віне.**

**Даволі выразна апошнім часам намецілася жаданне ачалавечыць гісторыю Беларусі, насяліць яе жывымі людзьмі. Няхай ідзе гаворка пра полацкіх князёў, пра К. Лышчынскага або К. Каліноўскага, пра З. Жылуновіча ці А. Жэбрака, у рэшце рэшт нават пра Бэндэ ці Цанаву — усюды мы бачым імкненне паказаць пераламленне найскладаных гістарычных калізій праз лёсы людзей. У шэрагу вернутых імёнаў увагу даследчыкаў прывабілі жыццё і дзейнасць Усевалада Макаравіча Ігнатоўскага — чалавека, гісторыка і палітыка, народнага камісара, аднаго з ініцыятараў і арганізатараў Інстытута беларускай культуры, першага прэзідэнта Беларускай Акадэміі навук.**

Гістарычны партрэт У. Ігнатоўскага пакуль цяжка даць з вычарпальнай паўнатой. Толькі параўнаўча нядаўна адбылася яго палітычная рэабілітацыя, а яго працы былі вызвалены са спецсховішча. Думаю, калі б не быў некалькі гадоў таму назад рассыпаны набор падрыхтаванай у АН БССР калектыўнай манаграфіі «Інстытут беларускай культуры», то палеміка вакол імя Ігнатоўскага і падзей 20-х гадоў вялася б сёння на больш высокім узроўні. Забарона друкавання гэтай кнігі, народжаная баязлівай палітыкай тых гадоў, не зняла, а толькі адклала вырашэнне шэрагу складаных і спрэчных праблем беларускай гісторыі.

Сёння на змену здагадкам, домыслам і эмоцыям павінны ісці факты. І калі старанна не прасачыць усе павароты неадназначнага, складанага нават для таго няпростага часу лёсу Ігнатоўскага, то на змену аднаму ідэалагічнаму міфу прыйдзе другі. Работа ў архівах Эстоніі і Ленінграда дазволіла асвятліць шэраг невядомых і спрэчных старонак яго біяграфіі, асабліва перыяду вучобы ў Пецярбурзе і Юр'еве, даволі падрабязна спазнаць яго радаводную.

У другім семестры 1905 г. у матрыкульных кнігах Імператарскага Юр'еўскага універсітэта пад нумарам 20314 быў запісаны новы студэнт — Усевалад Ігнатоўскі, ураджэнец Брэсцкага павета Гродзенскай губерні, з сялян, выпускнік Магілёўскай духоўнай семінарыі.

Якой была ў той час адна са старэйшых вышэйшых навучальных устаноў Расійскай імперыі? Зусім не падобны на Дэрпцкі, па сутнасці, астзейскі, прыбалтыйска-нямецкі універсітэт, які праіснаваў амаль усё XIX стагоддзе і даў такіх знакамітых выпускнікоў, як фізік Э. Ленц, эмбрыёлаг К. Бэр, хірург М. Пірагоў, стваральнік «Толкового словаря русского языка» У. Даль. Прычынай рэзкіх перамен стала палітычная рэакцыя 80-х гадоў, накіраваная на ўмацаванне ўстояў самадзяржаўя і падаўленне масавага рэвалюцыйнага руху. Ахвярамі рэакцыі сталі таксама асвета і вышэйшая школа.

У 1889—1895 гг. царскім урадам была праведзена рэформа Дэрпцкага універсітэта. Аўтаномія яго, адпаведна з уведзеным у 1884 г. новым універсітэцкім статутам, была значна ўрэзана, уводзіўся строгі кантроль за дзейнасцю яго адміністрацыі, забараняліся студэнцкія арганізацыі, правядзенне сходаў і сходак. Указам ад 20 лістапада 1889 г. была ліквідавана выбарнасць рэктара, прарэктара, дэканаў і прафесараў.

Дарэчы, першым прызначаным, а не выбраным рэктарам стаў А. С. Будзіловіч, ураджэнец вёскі Камотава Гродзенскага павета, вядомы славіст, член-карэспандэнт Пецярбургскай акадэміі навук, член Сербскай акадэміі навук. Неадназначная фігура нашага земляка (з аднаго боку, яраснага манархіста, які скончыў свой жыццёвы шлях у 1908 г. у якасці рэдактара афіцыёза «Московские ведомости», з другога — аднаго з ідэолагаў панславізму, і, з трэцяга — буйнога педагога і вучонага-філолага, чые працы пра старую славянскую пісьменнасць дагэтуль не страцілі свайго значэння) яшчэ чакае свайго даследчыка.

Усё большы размах набывала русіфікатарская палітыка царызму. Паслядоўна ажыццяўляўся пераход з нямецкай мовы навучання на рускую. Руская мова стала абавязковай і для дысертацый. Да канца 1895 г. большасць лекцый ужо чыталася на рускай мове. З 1982 г. на рускай мове пачалі весці справаводства і афіцыйную перапіску.

У сувязі з перайменаваннем у 1893 г. горада Дэрпта (нямецкі Dorpat) у Юр'еў універсітэт афіцыйна стаў іменавацца Імператарскім Юр'еўскім універсітэтам.

Аднак, нягледзячы на рэакцыйныя памкненні царызму, пераўтварэнні, у канчатковым выніку, мелі і прагрэсіўныя рысы. Пачалі мацавацца сувязі універсітэта з іншымі навуковымі і культурнымі цэнтрамі імперыі. Студэнцтва стала шматнацыянальным.

13 ліпеня 1897 г. быў выдадзены ўрадавы ўказ, паводле якога Юр'еўскаму універсітэту было дазволена прымаць асоб, якія закончылі духоўныя семінарыі, на ўсе факультэты, акрамя багаслоўскага, з дадатковымі ўступнымі экзаменамі па рускай і старажытных мовах у аб'ёме гімназічнага курсу. Хоць гэта таксама было часткай русіфікатарскага курсу царызму, але паслужыла не столькі русіфікацыі, колькі дэмакратызацыі Юр'еўскага універсітэта. Бо прыём у духоўныя семінарыі вёўся без саслоўных абмежаванняў і, такім чынам, ва універсітэце значна павялічылася колькасць студэнтаў з разначынцаў і сялян. К пачатку XX ст. каля паловы студэнтаў Юр'еўскага універсітэта складалі выпускнікі духоўных семінарыяў.

Да рэвалюцыі сярод студэнтаў Юр'еўскага універсітэта былі прадстаўнікі 40 нацыянальнасцяў. Нямала вучылася там і студэнтаў з Беларусі. Адсутнасць у гэты час на беларускіх землях вышэйшых навучальных устаноў абцяжарвала атрыманне адукацыі, але не магло зменшыць імкнення да ведаў.

У фондах Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва Эстоніі захаваліся дзве асабістыя справы У. М. Ігнатоўскага (№№ 10525 і 10526). У гэты ж час, толькі на медыцынскім факультэце, вучыўся яго малодшы брат Мікалай. Дакументы іх асабістых спраў даюць цікавыя факты аб радаводнай сям'і Ігнатоўскіх.

Нарадзіўся У. Ігнатоўскі 19 красавіка 1881 г., хрышчаны ў Такарскай царкве Брэсцкага павета Гродзенскай губерні. Яго бацька, Макар Іванавіч, служыў у той час настаўнікам Такарскага народнага вучылішча. Быў ён сынам царкоўнага старасты, з сялян, нарадзіўся ў мястэчку Антопаль Кобрынскага павета. У 1871 г. скончыў курс Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі і потым у розных мясцінах служыў настаўнікам народных вучылішчаў, пакуль, па ўказе Літоўскай духоўнай кансісторыі, не быў прызначаны псаломшчыкам Дубінскай царквы ў Пружанскім павеце. 12 верасня 1899 г. рукапакладзены ў дзякі Дубінскай Свята-Успенскай царквы. 30 снежня 1901 г. рукапакладзены ў свяшчэннікі ў Быценскай Петра-Паўлаўскай царкве ў Слонімскім павеце. 19 красавіка 1891 г. па імператарскім указе ўзнагароджаны званнем асабістага ганаровага грамадзяніна. 5 мая 1897 г. узнагароджаны бронзавым медалём за працу па перапісе.

Маці Усевалада, Соф'я Вікенцьеўна, была дачкой настаўніка Вікенція Смольскага, «мученически скончавшегося от шайки поляков 19 апреля 1863 г.» (ЦДГА ЭССР, ф. 402, воп. І, с. 10527, л. 15). Не будзем удавацца ў містыку, але адзначым гэтыя даты. Будучы аўтар «1863 года на Беларусі» нарадзіўся ў 18-ю гадавіну з дня гібелі свайго дзеда.

У дакументах прыгадана і сястра Усевалада і Мікалая — Любоў, у той час настаўніца ў Віленскім епархіяльным жаночым вучылішчы.

У. Ігнатоўскі пасля заканчэння курса ў Віленскім духоўным вучылішчы паступіў у жніўні 1896 г. у Літоўскую духоўную семінарыю, дзе вучыўся да 5-га класа. Потым у студзені 1902 г. ён паступае ў апошні, 6-ы клас Магілёўскай духоўнай семінарыі і ў тым жа годзе заканчвае яе па І-ым разрадзе.

Не трэба перабольшваць беднасць сям'і Ігнатоўскіх, сцвярджаючы, што яна «ледзь-ледзь зводзіла канцы з канцамі» («Полымя», 1988, № 5, с. 171). Абодва сыны вучыліся ва універсітэце, дачка стала настаўніцай. Малаверагодна, што ў бацькі У. Ігнатоўскага было «негатыўнае стаўленне да царскага рэжыму» (Там жа, с. 172). Ягоная біяграфія сведчыць адваротнае. Не мог У. Ігнатоўскі выключацца за ўдзел «у рэвалюцыйных выступленнях моладзі» з Віленскай гімназіі, таму што ніколі не вучыўся ў ёй.

У Юр'еве Усевалад Ігнатоўскі з'явіўся, маючы за плячамі два курсы Пецярбургскага гісторыка - філалагічнага інстытута. Менавіта там, а не ў Пецярбургскім універсітэце («Голас Радзімы», 1990, № 44) ён вучыўся ў 1902—1904 гг.

У досыць складанай сістэме вышэйшай адукацыі ў Расійскай імперыі Пецярбургскі гісторыка-філалагічны інстытут займаў асаблівае месца. Ён быў арганізаваны ў 1867 г. замест педагагічных курсаў пры універсітэце. У адрозненне ад універсітэтаў таго часу, у яго прымалі выпускнікоў не толькі класічных гімназіяў, а і духоўных семінарыяў. У 1875 г. інстытут атрымаў найменне Імператарскага, з 1885 г. яго студэнты насілі форму, якая адпавядала універсітэцкай. Усе студэнты жылі ў будынку інстытута і былі на поўным казённым утрыманні. Жыццё гэтай вышэйшай закрытай навучальнай установы падпарадкоўвалася даволі строгім правілам. 31 жніўня 1902 г. студэнт І-га курса Усевалад Ігнатоўскі падпісвае друкаваны бланк: «Поступая в число штатных воспитанников Императорского Санкт-Петербургского Историко-Филологического института я, нижеподписавшийся, обязуюсь на основании §§ 35 и 36 Устава Института Высочайше утвержденного 27 июня 1867 г. прослужить по окончании курса не менее шести лет в ведомстве Министерства Народного Просвещения по назначению Министра и соблюдать, как в Институте, так и вне оного, порядок, установленный особыми для учащихся правилами, составленны-

# РЭЛІГІЯ І МОВА

**(Працяг. Пачатак на стар. 13).**

Якуб Колас даваў такую параду людзям, як выйсці з гэтага цёмнага лабірынта: «Ці беларус праваслаўны, ці беларус католік павінен ясна сабе ўсведамляць, што ён сын сваёй Бацькаўшчыны, гаспадар свайго краю»... Заканчваўся артыкул словамі: «Не мяшайма справы рэлігіі з нацыянальнасцю». Так і хочацца парэкамендаваць іх і сёння над дзвярыма, што вядуць у праваслаўныя і каталіцкія храмы Беларусі.

Пачынальнік новай беларускай мастацкай літаратуры, як ніхто іншы, добра разумеў, наколькі важным было б у час выкліканага рэвалюцыйнымі падзеямі 1905—1907 гг. абуджэння нацыянальнай самасвядомасці схіліць і праваслаўную, і каталіцкую цэрквы будаваць сваю рэлігійную дзейнасць на мясцовым матэрыяле, як гэта рабілася і робіцца ў пераважнай большасці народаў свету. Ізноў прыгадваліся тыя далёкія гады, калі, нягледзячы на перашкоды з боку Маскоўскай патрыярхіі і польскай каталіцкай царквы, закладваўся камень за каменем у падмурак мясцовай, у аснове сваёй нацыянальнай уніяцкай царквы. Дзякуючы добра развітаму фальклору памяць пра яе ніколі не памірала ў народзе. Пры любых спрыяльных нагодах лепшыя яго прадстаўнікі імкнуліся калі не адрадзіць, дык хоць узяць ад уніяцтва самае дарагое і каштоўнае, каб даць яму жыццё ў праваслаўнай ці каталіцкай рэлігіі. І вядома ж, такім самым дарагім і каштоўным заўжды прызнавалася беларуская мова, якую пры самай мізэрнай магчымасці стараліся ўвесці ў богаслужэнне, каб зрабіць яго зразумелым і нацыянальным па форме. Такую магчымасць, здавалася, давалі беларускаму народу тыя падзеі, што разгарнуліся ў іх краі на рубяжы XIX—XX стагоддзяў і асабліва напярэдадні і пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Голас у падтрымку беларускага элементу ва ўсіх відах канфесійнай дзейнасці падавалі тады і многія нацыянальна-дэмакратычныя арганізацыі. Царква не выключалася імі з тых форм грамадскага жыцця, якія павінны былі адыграць пазітыўную ролю ў лёсе беларускага краю. Нельга тут не прызнаць і правільнасці палітыкі Беларускага нацыянальнага камітэта (БНК) у тым, каб дзеля нацыянальна-культурнага адраджэння беларускага народа выкарыстаць і аўтарытэт царквы, бо яна, як сведчыў сусветны вопыт, працягвала заставацца папулярнай, уплывовай у асяроддзі шырокіх мас людзей. Але ў адрозненне ад многіх рэлігій свету тыя віды рэлігій, што ўжо некалькі стагоддзяў функцыяніравалі на тэрыторыі Беларусі, не толькі не садзейнічалі, а, наадварот, размывалі этнічную самасвядомасць карэннай нацыі пад усё тым жа шкодным дэвізам: праваслаўныя — гэта рускія, католікі — гэта палякі. Каб пакончыць з такім негатыўным уплывам праваслаўнай і каталіцкай цэркваў на народ, БНК вырашыў заклікаць іх весці свае пропаведзі на беларускай мове. У першую чаргу такую просьбу камітэт праз газету «Вольная Беларусь» паслаў магілёўскаму архіепіскапу.

Пры любой нагодзе імкнуўся ўнесці яснасць у пытанні рэлігійнай і нацыянальнай прыналежнасці вядомы беларускі філолаг-славіст Яўхім Карскі. Пра працяглую канфрантацыю на Беларусі паміж праваслаўем і каталіцызмам ён мог меркаваць не па кнігах, бо быў родам з Гродзеншчыны, дзе больш чым у якім-небудзь іншым куточку нашай зямлі даваліся ў знакі беларусам супярэчнасці ў дзейнасці гэтых дзвюх канфесій. У невялічкай брашурцы, што выйшла ў Мінску ў 1920 годзе, вучоны пісаў, што «на Беларусі прыналежнасць да каталіцкай рэлігіі аніяк не можа служыць адзнакай паходжання асобы з польскай народнасці...»

Аддзяліўшы царкву ад дзяржавы, урад Савецкай Беларусі ў першыя гады пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі не праяўляў асаблівай зацікаўленасці да таго, што рабілася ў рэлігійным жыцці. А яго надзеленыя павагай да роднага краю людзі пакрысе імкнуліся накіраваць у тое рэчышча, па якім павінна было ажыццяўляцца нацыянальна-культурнае адраджэнне беларускага народа. У розных колах інтэлігенцыі не абміналі пытання аб уніяцкай царкве, прыгадваючы яе прыхільнасць да духоўнай культуры радавых, незаможных станаў беларускага народа, якіх цяпер Кастрычнік рабіў уладарамі ўласнага лёсу.

Назіраючы, як ва ўмовах выкліканай рэвалюцыяй дэмакратызацыі жыцця раней сацыяльна і нацыянальна зняволены народ былога Паўночна-Заходняга краю актыўна бярэцца за адраджэнне сваёй духоўнай спадчыны, і многія каталіцкія святары ўсур'ёз задумваліся над тым, як найлепш выкарыстоўваць беларускую мову ў богаслужэнні. Яны не сумняваліся, што з боку вернікаў будуць мець самую шырокую падтрымку. У тыя часы, нягледзячы на ўсе перажытыя пакуты ад паланізацыі і русіфікацыі, нацыянальных традыцый, роднага слова трымаўся ва ўсіх жыццёвых сітуацыях не толькі беларускі селянін-католік. Такая павага да духоўнай спадчыны назіралася і сярод заможных пластоў карэннага насельніцтва нашага краю, якое вызначала каталіцкую веру. У 20-я гады наш вядомы мовазнавец С. Некрашэвіч займаўся вывучэннем беларускіх гаворак Парыцкага раёна і пакінуў такі запіс: «Па рэлігіі шляхта падзяляецца на праваслаўную (большасць) і каталіцкую (меншасць). Як тая, гэтак і другая шляхта гаворыць добраю беларускаю гаворкаю».

Большасць з тых, хто ў першыя гады пасля Кастрычніка непахісна стаяў на правым фланзе адраджэння сваёй Бацькаўшчыны, добра разумеў, што і ў яе рэлігійным жыцці не ўсё павінна адбывацца па ранейшых традыцыях, бо гэта не адпавядала б прынцыпам абвешчанай у краіне нацыянальнай палітыкі, супярэчыла б распачатай у нашым краі беларусізацыі. І сёе-тое сапраўды рабілася дзеля падвядзення трывалага нацыянальнага падмурку пад дзейнасць не толькі праваслаўнай, але і каталіцкай цэркваў на Беларусі. Праўда, дамагчыся прыкметных поспехаў у гэтым Савецкай Беларусі не ўдалося, таму што міжнацыянальныя адносіны вельмі хутка зведалі на сваім шляху шмат сур'ёзных скажэнняў, амаль усе шчырыя змагары за духоўнае адраджэнне беларускага народа апынуліся за кратамі, загінулі ў сталінскіх турмах і лагерах. У рангу аўтакефальнай Беларуская праваслаўная царква праіснавала толькі з 1922 па 1925 г. Яе мітрапаліта Мельхісядэка выслалі ў далёкую і халодную Сібір. Духавенства, мо як ніводная іншая катэгорыя людзей, панесла самую вялікую кару. Адчулі яны гэта ўжо на рубяжы 30-х гадоў, але самым небяспечным быў час з другой паловы 1937 па 1 чэрвеня 1938 года, калі нкусаўцы арыштавалі больш за тысячу царкоўнікаў і сектантаў. Ва ўцалелых пад канец 1936 года ў БССР 74 цэрквах і 18 касцёлах (у 1917 годзе іх было адпаведна 1445 і 113) ніхто, вядома, са святароў і не думаў пра нейкія там нацыянальныя інтарэсы беларусаў, бо бачыў, што і ўрад і партыя рэспублікі адступіліся ад тых прынцыпаў, якіх яны прытрымліваліся ў першыя гады пасля Кастрычніка. У гэтай складанай сітуацыі больш хітра дзейнічалі служыцелі каталіцкага кліру. Тым, хто заносіў руку над касцёлам, яны заяўлялі, што яны парушаюць

ми Конференциею и утвержденными Министром Народного Просвещения» (Ленінградскі дзяржаўны гістарычны архіў (далей — ЛДГА), ф. 53, воп. 1, с. 2953, л. 7).

Здавалася б, наперадзе чатыры гады вучобы і пачатак паспяховай настаўніцкай кар'еры. У кандуітным лісце студэнта Усевалада Ігнатоўскага даволі стандартны набор «прегрешений»: заўвагі за адсутнасць на ранішняй малітве, папярэджанні за спазненні на заняткі і з водпуску. Толькі адзін запіс ад 21 красавіка 1904 г. выбіваецца з агульнага раду: «По делу 9 апреля отнесен ко второй категории виновных. Объявлен г. Директором выговор от имени Конференции и лишен льгот» (ЛДГА, ф. 53, воп. I, с. 2953, л. 21).

Аказваецца, і ў казённай атмасферы закрытай навучальнай установы павеяла новымі вятрамі. Абураныя несправядлівым пакараннем двух сваіх таварышаў, студэнты сабраліся на сходку. У заяве, перададзенай дырэктару інстытута прафесару В. Латышаву, яны былі настроены досыць рашуча: «Наши пострадавшие товарищи, а в лице их и мы все, оскорблены Вами, Вашим пренебрежительно-грубым обращением с ними... Вы отрицаете за нами право протестовать против несправедливого обвинения и доверяете показаниям служителей больше, чем словам студентов... Мы протестуем против такого обращения и считаем себя вправе ожидать соответствующего извинения с Вашей стороны и уверения, что ничего подобного более ни с кем из нас не произойдет» (ЛДГА, ф. 53, воп. I, с. 3170, л. 13—13).

Калі ў 1904 г. студэнцкія хваляванні працягваліся некалькі дзён, то ў 1905 годзе справа прыняла куды больш сур'ёзны абарот. «Глубоко потрясенные событиями последних дней, происшедшими в Петербурге и других местах России, мы, студенты историко-филологического института, не можем продолжать занятий и просим прекратить временно чтение лекций, пока общая академическая жизнь не войдет в нормальную колею», — такую рэзалюцыю прыняла студэнцкая сходка 23 студзеня. (Там жа, с. 3180, л. 1). Пачалася забастоўка студэнтаў. Адміністрацыя інстытута пастанавіла пачаць заняткі з 15 лютага, пры гэтым тых студэнтаў 2—4 курсаў, хто не з'явіцца на заняткі, лічыць пакінутымі на другі год і адправіць іх у водпуск да 1 верасня, а студэнтаў I курса, якія не з'явіліся, наогул звольніць. Першакурснікі выйшлі на заняткі, як напісалі яны ў сваёй рэзалюцыі: «Не по принципиальному разногласию со старшими товарищами, а в силу исключительных мер примененных к нам конференцией профессоров в случае нашей забастовки» (Там жа, л. 12).

Студэнты астатніх курсаў вырашылі стаяць да канца. «Круговой порукой *обязываемся немедленно оставить институт, если кто-либо из наших товарищей будет уволен»*, — сярод подпісаў пад гэтай студэнцкай рэзалюцыяй подпіс і студэнта 3 курса Ігнатоўскага. Забастоўшчыкаў аб'явілі пакінутымі на другі год і адправілі ў водпуск.

Усевалад Ігнатоўскі вырашыў прадоўжыць сваю адукацыю ў Юр'еўскім універсітэце. Але, правучыўшыся год, ён пакідае вучобу, просіць звольніць яго з універсітэта і выдаць дакументы для прад'яўлення ў Выпрабавальную камісію гісторыка - філалагічнага факультэта Пецярбургскага універсітэта. На прашэнні рэзалюцыя тагачаснага рэктара універсітэта Е. Пасека: «Уволить за невзнос платы».

У 1906—1907 гг. Ігнатоўскі здае экзамены на званне настаўніка і восенню 1907 г. прызначаецца гарадскім настаўнікам у горадзе Ладзейнае Поле Алонецкай губерні. Адбываюцца змены ў яго асабістым жыцці. 26 верасня 1908 г. у Ладзейнапольскім саборы Ігнатоўскі «повенчан первым браком с крестьянскою девицею Саратовской губернии, Балашевского уезда, села Боцманова и той же волости Мариею Севастьяновою Арефьевою, 23 лет».

7 ліпеня 1909 г. Ігнатоўскі зноў просіць прыняць яго ў Юр'еўскі універсітэт. Настаўніцкую пасаду ён пакінуў 15 студзеня і жыве ў гэты час па адрасе: паштовая станцыя Косава Гродзенскай губерні Слонімскага павета, урочышча Загрыдава. У адказ на запыт Гродзенскі губернатар у пісьме рэктару Юр'еўскага універсітэта ўказаў: «...названный Игнатовский за время проживания в Слонимском уезде ни в чем предосудительном, как в нравственном, так и в политическом смысле замечен не был», і 22 жніўня 1909 г. Ігнатоўскі зноў залічаны ў студэнты.

Такім чынам, сцверджанне аб ссылках Ігнатоўскага ў Гродзенскую і Алонецкую губерні («Голас Радзімы», 1990, № 44) выглядаюць міфам. Не было і дэтэктыўнай гісторыі з «фальшывым пасведчаннем» аб палітычнай добранадзейнасці пры «паступленні» Ігнатоўскага ва універсітэт («Полымя», 1988, № 5, с. 172). Было сапраўднае пасведчанне ад 8 жніўня 1909 г. «и не «поступление», а вяртанне ва універсітэт для працягу вучобы.

Два гады вучобы і У. Ігнатоўскі «...выдержав окончательное испытание по историческому отделению историко-филологического факультета удостоен звания действительного студента истории» (ЦДГА ЭССР, ф. 402, воп. I, с. 10526, л. 13). Універсітэт скончан. У лекцыйнай кніжцы У, Ігнатоўскага за 3—5 курсы ўсе прадметы, акрамя «чацвёркі» па нямецкай мове, ацэнены на «выдатна».

На гістарычным аддзяленні Юр'еўскага універсітэта ў пачатку стагоддзя склаўся моцны прафесарска-выкладчыцкі склад. Прафесуру ўсеагульнай гісторыі займаў А. А. Васільеў, арыенталіст, буйны даследчык візантыйска-арабскіх і славяна-грэчаскіх адносін. Пазней, у 1923 г., яго выбралі членам-карэспандэнтам АН СССР. У 1925 г. А. А. Васільеў эмігрыруе і робіцца адным з заснавальнікаў візантыязнаўства ў ЗША. Спецыяльны курс рускай гісторыі і курс рускай гістарыяграфіі чытаў I. I. Лапо, вядомы сваімі даследаваннямі па гісторыі Вялікага княства Літоўскага. У 1910 г. у Юр'еве выдадзена яго кніга «Великое княжество Литовское во второй половине XVI столетия». У сувязі з гэтым адзначым настойлівую неабходнасць гістарыяграфічнага аналізу поглядаў У. Ігнатоўскага і I. Лапо па гэтых пытаннях.

Несумненную цікавасць для гісторыёграфа могуць уяўляць два захаваныя заліковыя сачыненні У. Ігнатоўскага. Гэта агульны сшытак (23 лісты) з работай «Двенадцать статей, их руководящие принципы и объяснение двенадцати статей» (1909 г.), а таксама сачыненне «Борьба Василия II с Болгарией». На ім паметка: «Признаю эту работу г. Игнатовского удовлетворительной. Ант. Ясинский. 18-го апреля 1911 г. г. Юрьев» (ЦДГА ЭССР, ф. 402, воп. I, с. 10526, л. 10). А. М. Ясінскі ў 1896—1911 гг. быў у Юр'еўскім універсітэце прафесарам гісторыі сярэдніх стагоддзяў. У 1922 г., відавочна, не без садзеяння У. Ігнатоўскага, А. Ясінскі робіцца прафесарам гісторыі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, яго імя сярод першых акадэмікаў Беларускай Акадэміі навук.

У гістарычнай літаратуры ўжо адзначалася, што доўгія гады «в приятельских отношениях с Ясинским» знаходзіўся беларускі гісторык В. Д. Дружчыц» (Москаленко А. Е. К изучению жизни и деятельности А. Н. Ясинского (1864—1933). Труды Воронежского гос. ун-та. Т. 85, Воронеж, 1969, с. 257). Адзначым, што Дружчыц быў студэнтам гістарычнага аддзялення гісторыка-філалагічнага факультэта Юр'еўскага універсітэта з 1907 г. і закончыў яго адначасова з Ігнатоўскім у 1911 г. Зусім верагодна, што два былыя семінарысты, землякі (Дружчыц — ураджэнец вёскі Блудня Пружанскага павета Гродзенскай губерні) падтрымлівалі ў час вучобы сяброўскія кантакты. Не перарываліся іх сувязі і пазней. У 20-я гады В. Дружчыц — сапраўдны член Інбелкульта, дацэнт, а потым прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Ва універсітэце У. Ігнатоўскі прайшоў добрую гістарычную школу, кантакты з некаторымі сваімі настаўнікамі і аднакурснікамі ён падтрымліваў і пазней. У 1911 г. Ігнатоўскаму споўнілася 30 гадоў. Яшчэ 20 гадоў аддзялялі яго ад ракавога стрэлу ў лютым 1931 г.

**А. КІШТЫМАЎ,**
**супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР.**

---

умовы Рыжскага дагавору 1921 года, у якім нібыта ёсць спецыяльны артыкул аб недапушчэнні ўсялякага роду абмежаванняў католікам спавядаць сваю веру. І ўсё ж палітыка насаджэння масавага атэістычнага руху на Беларусі, як і ў іншых рэспубліках, практычна паралізавала дзейнасць як праваслаўнай, так і каталіцкай цэркваў. Пад канец 30-х гадоў яны па сутнасці не рабілі аніякага ўплыву на нацыянальна-культурныя працэсы на тэрыторыі Савецкай Беларусі. Ужо паспела вырасці цэлае пакаленне маладых людзей, якое было выхавана ў антырэлігійным духу, адкрыта асуджала ўсіх, у тым ліку і сваіх бацькоў, за веру ў Бога.

Зусім інакш складвалася канфесійная сітуацыя на тых беларускіх землях, што захапіла Польшча. Нацыянальна-вызваленчы рух на «ўсходніх крэсах» не мог не ўплываць і на дзейнасць святароў. Сярод іх заўсёды былі людзі, што верна служылі інтарэсам свайго народа, выказвалі на справе гатоўнасць адстойваць яго нацыянальныя правы. Не дарэмна тут увесь час не спынялася барацьба за ўкараненне этнакультурнага беларускага элементу ў рэлігійнае жыццё Заходняй Беларусі. І што характэрна, найбольшую актыўнасць праяўлялі служыцелі каталіцкай царквы, хаця рабіць такое ім было куды больш складана, чым іх калегам па праваслаўнай веры, бо афіцыйныя ўлады Польшчы зусім не цікавіла, вядуць тут богаслужэнне на *царкоўнаславянскай, рускай* ці беларускай мовах. На жаль, такую акалічнасць і не падумалі выкарыстаць тыя, хто кіраваў дзейнасцю праваслаўнай царквы на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Старанне паасобных святароў каталіцкай царквы ў захаванні беларускіх духоўных традыцый было куды больш адметным, хоць польскі ўрад у сваёй палітыцы паланізацыі беларусаў надзею ўскладаў менавіта на гэтую царкву, ведаючы пра яе багацейшы вопыт і «вялікі ўклад» у даную справу яшчэ ў даўно мінулы перыяд Рэчы Паспалітай. Аднак не ўсе прадстаўнікі каталіцкага духавенства з мясцовага насельніцтва кінуліся на яго паланізацыю, хаця і добра ведалі, як многім яны рызыкуюць. Не здрадзіў свайму народу і беларускі ксёндз Кастусь Стаповіч, вядомы пад літаратурным псеўданімам Казімір Сваяк. Раней было не прынята гаварыць пра яго, а калі што-небудзь і гаварылася, дык толькі ў адмоўным плане. Аб'ектыўную адзнаку творчасці Казіміра Сваяка даў вядомы беларускі крытык і літаратуразнаўца Уладзімір Калеснік, прызнаўшы, што яго паэзія «была ў 20-я гады эталонам этычнай і духоўнай культуры, голасам шчырага патрыятызму. Вастрыня і высакароднасць перажывання народнае драмы зрабілі прывабнымі і блізкімі моладзі патрыятычныя вершы каталіцкага святара, якога па-чалавечы разумелі неверуючыя ў бога камсамольцы і камуністы». Яшчэ і сёння жывуць на радзіме Стаповіча людзі, якія памятаюць яго казанні ў касцёле на беларускай мове.

О, як цяпер нам патрэбны — і сярод праваслаўных, і сярод каталікаў — такія *постаці, як святар і паэт* Казімір Сваяк! Верыцца, што тая рэлігійная плынь прынясе больш карысці для духоўнага адраджэння беларусаў, будзе папулярнай сярод іх, якая больш вылучыць са сваіх святароў асоб накшталт Казіміра Сваяка. А гэта магчыма толькі пры выкарыстанні ў час богаслужэння беларускай мовы.

Даволі шырокае бытаванне беларускай мовы ў асяроддзі мясцовых служыцеляў каталіцкай царквы Заходняй Беларусі спрыяла таму, што Казімір Сваяк быў не адзіным змагаром за нацыянальныя інтарэсы свайго народа. У прагрэсіўнага святара было нямала шчырых прыхільнікаў, якія імкнуліся ўсімі сіламі і сродкамі ўзвышаць у каталіцкай царкве нацыянальныя духоўныя набыткі сваёй Бацькаўшчыны. Адораныя паэтычным талентам ксяндзы Заходняй Беларусі В. Адважны, Я. Быліна, А. Зязюля пісалі ў 20—30-я гады вершы на беларускай мове, чым не могуць пахваліцца служыцелі рускай праваслаўнай царквы, бо заўжды знаходзіліся не ў ладах з беларускай мовай, у час службы гаварылі з народам на чужой для яго мове. Гісторыі проста невядомы выпадкі, каб у дарэвалюцыйны перыяд ці пасля яго якаясьці частка рускага праваслаўнага духавенства на Беларусі (нават і мясцовага паходжання) паставіла перад сабою высакародную мэту: славіць Бога на роднай мове беларусаў.

Пра тое, якое велізарнае значэнне для народа мае нацыянальная царква, вельмі слушна гаварыў вядомы рускі дарэвалюцыйны гісторык М. Пагодзін: «Богаслужэнне на роднай агульназразумелай мове... ёсць краевугольны камень нашага маральнага стану... Калі рускі народ не зусім загрубеў, не пазбавіўся чалавечага аблічча, ні з прычыны амаль трохсотгадовага мангольскага прыгнёту, ні з прычыны іншых варожых падзей, калі не патухла ў нас, нягледзячы ні на якія буры і віхуры, *знешнія і ўнутраныя, іскра святога агню*, здольная ў шчаслівы час загарэцца, праліць святло і цеплыню на прасторы невымерныя, дык гэтым шчасцем абавязаны мы богаслужэнню на роднай мове». З вялікім душэўным смуткам даводзіцца прызнаць, што для беларусаў іх родная мова не была «гэтым шчасцем», і не ў *малой ступені* таму, што за яго ўсур'ёз не змагаліся тыя, хто нёс адказнасць за духоўны стан сваіх міран. А за яго ж трэба было змагацца, не баючыся ні адлучэння ад праваслаўнай царквы, ні залічэння ў катэгорыю ерэтыкаў. Не сумняваюся, што цяпер бы такіх беларускіх духоўнікаў, апосталаў нашага роднага слова мы ўсёй грамадой патрабавалі б ад праваслаўнай царквы ўзвесці ў лік святых.

**(Заканчэнне будзе).**

---

# ЧАРНОБЫЛЬСКІ ЦЫКЛ М. САВІЦКАГА




**Да 12 верасня будуць экспанавацца ў Палацы мастацтваў палотны Чарнобыльскага цыкла мастака М. Савіцкага. Яшчэ ў 1989 годзе наша газета і часопіс «Беларусь», пазней часопіс «Мастацтва Беларусі» друкавалі на сваіх старонках рэпрадукцыі гэтых твораў. Але экспанаваліся яны ўпершыню не на Беларусі, а ў Маскве.**

**Я б не сказаў, што Чарнобыльскі цыкл з'яўляецца для М. Савіцкага крокам наперад, выяўленнем новых якасцяў у працэсе ягонай творчай эвалюцыі. Часам мастак механічна пераносіць у чарнобыльскую тэму вобразы з уласных палотнаў, прысвечаных другой сусветнай вайне. Але ж больш як за 40 год змяніліся людзі Беларусі—і вонкава, і душою. Чарнобыль, дарэчы, гэта не толькі разгубленыя бежанцы, да якіх няма справы ўладам, пра якіх, здаецца, забыў сам Бог. Чарнобыль — гэта дэтанатар сацыяльнага выбуху на нашай зямлі. Да абвяшчэння, а потым і заканадаўчага зацвярджэння дзяржаўнага суверэнітэту Беларусь прыйшла менавіта «Чарнобыльскім шляхам».**

**Новы цыкл карцін М. Савіцкага ўяўляе цікавасць як адлюстраванне поглядаў не толькі самога майстра, але і многіх людзей старэйшага пакалення на чарнобыльскую трагедыю,. Таму перанос выяўленчых стэрэатыпаў ваеннай тэмы на чарнобыльскую цалкам зразумелы.**

**Напярэдадні выставы выйшлі з друку буйнафарматныя рэпрадукцыі карцін Чарнобыльскага цыклу М. Савіцкага. Наклад—5000 асобнікаў. Выдавец — Мінскае абласное аддзяленне савецкага фонда культуры. На рускай і англійскай мовах. Беларуская мова ў дадзеным выпадку праігнаравана.**

**П. ВАСІЛЕЎСКІ.**

---

**АБ'ЯВА**

**БЕЛАРУСКАЯ ОРДЭНА ДРУЖБЫ НАРОДАЎ ДЗЯРЖАЎНАЯ КАНСЕРВАТОРЫЯ ІМЯ А. В. ЛУНАЧАРСКАГА**

**АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС**

**на замяшчэнне вакантных пасад прафесарска-выкладчыцкага складу (для тых, хто мае мінскую прапіску).**

— **Кафедра спеваў:**

старшы выкладчык 0,5 адзінкі (дзве).

— **Кафедра беларускай музыкі:**

выкладчык — 0,5 адзінкі.

Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання.

Заяву і дакументы згодна Палажэнню аб конкурсах накіроўваць на імя рэктара па адрасу: 220600. г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30.

Даведкі па тэл.: 27-49-42, 26-06-70.

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Над дэманстрацыяй лунала: «Пакіньце нам, пакіньце генералаў!» Ачуўся генерал, ён спаў і мроіў, пакуль спрачаліся пра скарачэнне зброі.

●

З Вацлава Гавела: культ асобы — гэта піраміда з нулёў, на чале якой — не, не адзінка! — таксама нуль. Адзінка надзейна схаваная за кратамі з нулёў.

●

Камуністы вылезлі з акопаў на апошні свой, рашучы бой. А няма нікога, далакопаў авангард убачыў за сабой.

●

— Хто там замінае нашаму руху наперад, блытаецца пад нагамі? — грымнула зверху.

— Гэта мы — людзі — вы ж у нас на шыі, — данеслася знізу.

●

Змерклі мары пра горад-сад, пра харомы з бетону, пацягнула людзей назад, да ўтульных балконаў. Углядаюцца ў краявіды не атланты і не карыятыды.

●

Чалавека нашага не купіш — вось табе, чужая сіла, кукіш, з роўнае дарогі не саб'еш — хіба калі чарку паднясеш...

●

— Мы не старэем, — выхваляліся бройлеры, — у нас зарэз ранні!

●

На бібліятэчнай паліцы апынуліся побач маршы і вальсы. Марш сказаў: «Гісторыя краіны — гэта мая гісторыя. Успомніце, пад якую музыку людзі тупалі, — марш энтузіястаў і марш пераможцаў, марш пакарыцеляў і марш фізкультурнікаў, ці не кожная галіна мела свой марш. Нават маленькія крочылі пад музыку, а пра юных піянераў і казаць няма чаго — горн, барабан, чырвоны гальштук, і левай, левай, левай».

«Цяпер усё будзе па-іншаму», — сказаў вальс.

«Думаеце, пачнуць танцаваць вальс пад маршы? Нічога з гэтай канверсіі не атрымаецца. Сістэма сілкуецца намі, і ўжо спее думка, што пара вас перайначваць у маршы. Глядзіце, якая наша папка пухлявая і якая танюсенькая ваша».

На гэты момант увайшла бібліятэкарка. «Дзе тут папкі з нотамі, — сказала яна, — зноў на маршы попыт».

●

На Гомельшчыне паспяхова ліквідуюць сляды Чарнобыльскай аварыі — этыкеткі на кансервах цяпер толькі віцебскія.

●

Народам нёс свой дар Скарына, асветніцкі, бясцэнны дар. Удзячнасць нацыі? Калінін пакуль на плошчы ўладар.

●

Машэраў... Слюнькоў... Сакалоў... Малафееў... Драбнее народ ці начальства драбнее?

●

Чэргі, чэргі, чэргі, чэргі — выпраменьванне энергій, трата і акумуляцыя. Ты на колькі вольт, чарга-дэманстрацыя?

●

Годзе мроіць, сынку! Бацька, хопіць трызніць! Сёння шлях да рынку — шлях да камунізму!

Іван ГАЛУБОВІЧ

# Амаль па-Багушэвічу

У апошнія сем-дзесяць гадоў, пачынаючы ад станцыі Татаршчызна і амаль да самага Мінска па абодва бакі чыгункі, як схапіць вокам, нібы грыбы пасля дажджу, пачалі расці дачныя пасёлкі. А ў пасёлках тых не простыя звычайныя домікі, а як не праз адзін адштукаваныя двухпавярховыя лялькі-харомы з трапецыяпадобнымі дахамі, з гаражамі, у якіх не толькі «Жыгулі» ці «Масквічы», а адразу некалькі «Чаек» можа памясціцца. Неяк прыкінуў, што пры маёй 170-рублёвай зарплаце я такую дачу і машыну, ну, хаця б «Масквіч», і да самай смерці мець не буду.

Дык скуль у людзей столькі грошай? Мабыць, як у ваду глядзеў Францішак Багушэвіч, калі гаварыў, што бог не роўна дзеле...

Еду электрычкай, гляджу праз акно на казачныя гмахі, а ў галаве думкі, думкі... Нібы хто іголкамі коліць у скроні. У вачах, як жывы, стаіць худы, тонкі, з акуратнай рыжай бародкай дзядзька Вінцэсь.

Стаяла нясцерпная засуха. Тады з дзядзькам Вінцэсем мы ехалі ў Маладэчна. Электрычкаю. Ён па сваіх справах у райвыканком, я — дамоў. Праязджаючы каля аднаго дачнага пасёлка, дзядзька Вінцэсь кіўнуў у акно і сказаў:

— Во, жывуць, як амерыканцы! У магазінах пуста, хоць шаром пакаці, а ім што... Па заветах Леніна яны ў камунізм ідуць упэўнена. Багатаму і чорт дзяцей калыша. Усё пад сябе, як груганы, грабуць, ніякага сумлення не маючы.

Дзядзька Вінцэсь горка ўсміхнуўся, выцер з твару буйныя пацеркі поту і апавядаў далей:

— А мне хоць скрозь зямлю праваліся. Нідзе праўды не магу знайсці. Толькі і ведаюць, што языкамі часаць ды пасылаць адзін да аднаго, каб і вочы ім не мазоліў. Хай бы лепей тады ў шпіталі, як руку аднялі, з Гэлькай застаўся. Можа б лягчэй на свеце было жыць...

Цяжкі, бязрадасны лёс выпаў на долю дзядзькі Вінцэся. Як пачалася вайна, яму дзевятнаццаць гадоў усяго стукнула. Адразу на фронт, кулямётчыкам ваяваў.

Хацеў Гітлер паглядзець Маскву, але і Берліна не ўбачыў. Тут, пад Масквой, асколак міны дзядзьку Вінцэсю ў нагу трапіў. Вылечыў нагу і зноў на перадавую. Ужо ва Усходняй Прусіі яго зноў параніла. Застаўся на ўсё жыццё калекам, без правай рукі.

У шпіталі, дзе ляжаў, пазнаёміўся з медсястрой Гэляй. Упадабалі адзін аднаго. Гэля яго да сябе на Украіну, у Сумы клікала, да сваёй старэнькай маці. А Вінцэся дома хворы бацька чакаў, прычакацца не мог. Так і разышліся яны, як у моры караблі.

Вярнуўся ў роднае Загалле дзядзька Вінцэсь, а на грудзях ордэн Чырвонай Зоркі, добры дзесятак медалёў пабрыньквае. Нягледзячы на тое, што без рукі застаўся, без справы не сядзеў. І брыгадзірам паляводчай брыгады быў, і вартаўніком, і пастухом. Працаваў, як вол, і, лічы, за пустыя палачкі, ці як называлі тады працадні. Маліся, дзякуй богу, калі ў канцы года на гэты працадзень па 20—30 грамаў збожжа дадуць.

Нікому не скардзіўся дзядзька Вінцэсь, усё лепшай долі чакаў. Праўда, апошнім часам усё часцей і часцей сваю Гэльку-чарнаброўку ўспамінаў, бо не жаніўся, так і жыў бабылём.

Ішлі гады, састарэў дзядзька Вінцэсь, а разам з ім і хатка яго невялікая на адзін бок пахілілася, вось-вось перакуліцца. Столь на шафу асела, здаецца, на тым і трымалася. Летам яшчэ так-сяк, жыць можна, а зімою холадна, ажно вада ў хаце замярзае. Хоць ты плач. З адной рукой з гэтай бядой ніяк не справіцца. І пайшоў дзядзька Вінцэсь, інвалід другой групы Вялікай Айчыннай, да начальства. Паратунку шукаць. Спачатку ў сельсавет завітаў. Так і так, першы раз у жыцці звяртаюся да вас. Дапамажыце хату адрамантаваць. Старшыня, жанчына, выслухала дзядзьку Вінцэся ўважліва, і то добра, і гаворыць яму: «І рады былі б вам дапамагчы, дзядзька Вінцэсь, чалавек вы заслужаны, франтавік, але з фінансамі ў нас вельмі туга». Параіла яму звярнуцца да дырэктара саўгаса Касаткіна. У яго і сродкі, маўляў, ёсць, і сілы рабочай хапае.

І стаў цяпер дзядзька Вінцэсь, заслужаны чалавек, франтавік-ордэнаносец, косткаю ў горле для начальства.

У канторы дзядзька Вінцэсь Касаткіна не застаў. Вечарам пайшоў да яго дамоў. Хата Касаткіна непадалёку ад канторы знаходзілася. Не хата, а стадола! Мусіць, на тры сям'і хапіла б яе. Адчыніў веснічкі і адразу ж гаспадара ля гаража ўбачыў. Касаткін з чырвоным, нібы бурак тварам, шыракаплечы і дужы, як буйвал, корпаўся нечага ля светла-блакітных «Жыгулёў». Убачыў няпрошанага госця, выпрастаўся і агрубелым голасам спытаў:

— Што, дзядзька Вінцэсь, заблудзіўся?

— Не, Нічыпаравіч, не заблудзіўся, бяда ў мяне.

— Гы-гы-га! — зарагатаў на ўвесь сад Касаткін, паказваючы два залатыя зубы наперадзе. Ажно сцепануўся, схаваўся ў будку сабака.— Тваю бяду адной рукою развяду, расказвай...

Расказаў Касаткіну пра сваё гора франтавік. Праўда, назаўтра Касаткін прыехаў у Загалле сам, паглядзеў хату дзядзькі Вінцэся і сказаў яму, што і матэрыялу дасць, і цесляроў прышле. Адным словам, яго хата праз месяц як новая будзе.

Чакае месяц дзядзька Вінцэсь, чакае другі, хата яшчэ болей на бок пахілілася, а Касаткін маўчыць, як вады ў рот набраўшы, і знака пра сябе ніякага не падае. Цэлага паўгода цягнуў ката за хвост, пакуль не знайшліся добрыя людзі і не дапамаглі дзядзьку Вінцэсю ў Мінск і ў Маскву — у Міністэрства абароны напісаць. Дзядзьку Вінцэсю тады з Мінска 200 рублёў помачы прыслалі, а Касаткіну, пэўна, добра жару ў адно месца падсыпалі, бо праз тры тыдні прыпёрся да дзядзькі Вінцэся, вочы чырвоныя, як у мышы, сам злаславы, нібы той неўрастэнік, і кажа:

— Бяда мне, дзядзька Вінцэсь, з тваёй хатай. Увосень работ восем. Пакуль няма дажджоў — бульбу трэба ратаваць. Але ёсць у мяне адна мысля, дзядзька Вінцэсь. Трэба табе падысці ў Пятроўшчыну і паглядзець там хату Кузьмы Міклашэвіча. Сам ён памёр нядаўна, а сын у Мінску жыве. Калі спадабаецца будынак, адкуплю яго табе ў сына.

Падыбаў дзядзька Вінцэсь ажно за восем кіламетраў у тую Пятроўшчыну. Знайшоў сядзібу Міклашэвіча, стаіць і з твару змяніўся. Адно акно дошкамі забіта, а другое ажно з рамамі вынесена. На страсе комін паваліўся. Сама хатка маленькая, яшчэ меншая за яго, сцены трухлявыя, падрубы згнілі, напалавіну ў зямлю аселі.

«Не, Нічыпаравіч, нічога з тваёй мыслі не палучыцца, — падумаў тады дзядзька Вінцэсь, стоячы ля хаты Міклашэвіча. — Не згубіўшы — няма чаго шукаць. У мяне хоць садок свой ёсць. Яблычак сокам нальецца, вішанька паспее, а тут усё лебядой парасло...»

Завярнуўся дзядзька Вінцэсь і назад — у сваё Загалле паклыпаў. А Касаткіну сказаў:

— Нікуды я не пайду, Нічыпаравіч. Усякаму мілая свая старана. Так і мне. Мілы той куток, дзе рэзан пупок. У сваёй хаце паміраць буду.

Пад Новы год дзядзька Вінцэсь захварэў. Дактары паставілі дыягназ: крупознае запаленне лёгкіх. Два тыдні праляжаў у бальніцы ў Пяршаі. З Пяршай яго завезлі ў Валожын. Не ішоў на папраўку дзядзька Вінцэсь і ў гэтай бальніцы, хоць праляжаў ён тут болей, чым у Пяршаі: ажно тры тыдні. Жыццё франтавіка ўжо на танюсенькім валаску было, як спахапіліся і ў Бараўляны яго павезлі. Вечарам дзядзьку Вінцэся прывезлі, а ранічкаю ён і сканаў там. Позна ўжо было. Каб хоць крышачку раней яго прывезлі, хоць на два дзянёчкі.

г. Маладэчна.

## МАКСІМУ ПРЫСВЕЧАНА

1 верасня 1991 года ў вёсцы Ракуцёўшчына Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці адбудзецца Музычна-паэтычнае свята з нагоды 100-гадовага юбілею з дня нараджэння выдатнага беларускага паэта Максіма Багдановіча. У сённяшні пераломны час душой і сэрцам прыхінёмся да творчай спадчыны зоркі сусветнай паэзіі, вялікага сына зямлі беларускай, сустрэнемся з мясцінамі, якія надавалі яму сілы, жывілі яго непагасную любоў да Беларусі, да шматпакутнай Бацькаўшчыны.

Паслухаем вершы і песні, паэтаў і артыстаў... Наведаем гасцінныя двары ракуцёўцаў. Пабудзем на маленні, якое пасвенціць Крыж на месцы, дзе нолісь любіў прыпынянца паэт. Паўдзельнічаем у святочных карагодах. Пабудзем з Максімам душою!

Пачатак — а 16 гадзіне.

Праезд — па чыгунцы да станцыі «Краснае».

## АХВЯРАМ ТАТАЛІТАРЫЗМУ

23 жніўня таварыствам «Страж магіл польскіх» (Рэспубліка Польшча) у Курапатах пастаўлены мемарыяльны знак у памяць беларускіх грамадзян польскай нацыянальнасці — ахвяр бальшавіцкага таталітарызму. Адбылося каталіцкае набажэнства. Польскамоўнае, але ў час службы з вуснаў ксяндзоў гучала і беларуская мова. На ўрачыста-жалобнай цырымоніі прысутнічаў генеральны консул Рэспублікі Польшча ў Мінску.

Зараз, акрамя вялікага Крыжа, пастаўленага ў Курапатах пад час Дзядоў 1990 года, ва ўрочышчы стаяць тры малыя крыжы. Такім чынам, на святым месцы стыхійна ствараецца мемарыял. Мабыць, з часам спецыяльны знак у памяць сваіх адзінавернікаў пажадаюць паставіць беларускія мусульмане, іудзеі, прадстаўнікі іншых этнічных груп беларускага народа. Можа, паўстане пытанне аб пабудове ў Курапатах храма-пантэона, які аб'яднаў бы вернікаў усіх канфесій Беларусі.

Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.

## ЗА АДНУ НОЧ

Памятаеце выраз Мікіты Сяргеевіча, што да камунізму савецкі народ прыйдзе з адзінай мовай? Беларусь, як вядома, намаганнямі правячай ужо амаль выканала гэты запавет, а тут зноў адступленне: прынялі Закон аб мовах, пачалі адкрываць беларускамоўныя класы. Згодна з заявамі бацькоў адкрылі клас з беларускай мовай навучання і ў школе № 8 г. Ліды ў 1990 годзе.

Вы думаеце, у Лідзе няма сваіх герояў? Памыляецеся: «...у нас героем становится любой». Вось і дырэктар СШ № 8 «товарищ» Казакоў В. Ф., не дачакаўшыся канца навучальнага года (каб ніхто не апярэдзіў, ці што), у маі гэтага года за адну ноч перавёў навучанне ў класе на рускамоўнае. Засталося толькі пачакаць, ці адменіць ён сваё рашэнне зараз: умовы ж змяніліся...

Аляксандр ЗАКРЭЎСКІ.
г. Ліда.





Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётр ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04, аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.

Рэдакцыйная калегія:

Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.

Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.

Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12